11 снежня 2020 | № 47 (706)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час



novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144
КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

# Зноў залунае наш штандар!



Аксана КОЛБ

**Не ведаючы, як задушыць прагу людзей да волі, справядлівасці і лепшага жыцця, улада з новай сілай пачала змагацца са сцягамі.**

Іх зрываюць і топчуць, вырубаюць з-пад ільду і высякаюць з дрэваў, зафарбоўваюць і затынкоўваюць, зразаюць і выпальваюць. За іх штрафуюць і саджаюць на суткі. Але кожны дзень яны з'яўляюцца зноў. БЧБ-сцягі, бчб-рушнікі, елкі, снегавікі, сняжынкі, шкарпэткі, ліхтары, гірлянды, дзіцячыя горкі, кветнікі… Бясконцы спіс. Бясконцая фантазія свабодных людзей.

Кажуць, з набораў каляровага кардону зніклі чырвоныя аркушы. У кафетэрыях забараняюць вырабляць бчб-жэле. Дзесьці здымаюць з продажу чырвоныя тканіны. Барацьба з бел-чырвона-белым выходзіць на новы ўзровень. Гэта ўжо не проста змаганне з сімвалам. Гэта вар'яцкі навязлівы страх. Страх таго, што раптам якім-небудзь марозным ранкам бел-чырвона-белы сцяг залунае на Карла Маркса, 38.

*Лунае, нескароны,*
*На векавых вятрах*
*Наш, ад крыві чырвоны,*
*Ад болю белы, сцяг.*
*Наш бел-чырвона-белы,*
*Нябесны, вольны, смелы,*
*Наш бел-чырвона-белы,*
*Наш сцяг! Наш сцяг! Наш сцяг!*

Гэты верш Уладзіміра Някляева набыў сёлета асаблівы сэнс. Асаблівае гучанне.

І, магчыма, адзінае, за што я падзякавала б Лукашэнку, — 14 траўня 1995 года ён прыбраў свае рукі ад нашага сцяга. І таму сёння на аўтазаках і на дахах турмаў — сімвалах сённяшняй улады — мы бачым іншы сцяг. І таму сёння, як бы ні старалася прапаганда, як бы ні шчыравалі «людзі» ў чорным, бел-чырвона-белы сцяг — не толькі сімвал пратэсту, ён стаў штандарам свабоды.

Можна адправіць за краты палову краіны, можна ўвогуле забараніць усё белае і чырвонае якім-небудзь чарговым бязглуздым дэкрэтам, можна збіваць да смерці і прымушаць выціраць ногі аб сцяг. Ёсць сотні спосабаў катаванняў, у зла шмат магчымасцяў прымусіць пакутаваць дабро. Але няма такой сілы, якая магла б перамагчы мільёны людзей, акрыленых ідэяй стаць свабоднай нацыяй. Няма такой моцы, якая б спыніла пульсуючую чырвоную кроў свабоднай нацыі.

Час няўмольны і нястомны. Яго не спыніць. Гадзіннік адбівае пераможны час. Той, калі, як у песні, «зноў залунае наш штандар»! Залунае ў вольнай Беларусі.

# «У лагеры няма тых, хто падтрымлівае Лукашэнку»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Неўзабаве пасля прэзідэнцкіх выбараў у рэдакцыю «Новага Часу» патэлефанаваў мужчына. Ён распавёў, што адбывае пакаранне ў калоніі «Віцьба-3», і там жыццё, у тым ліку палітычнае, віруе не менш, чым тут, на волі. За што суразмоўца рэгулярна трапляе ў ШІЗА.**

Шмат мужчына (яго імя і прозвішча я не называю ў мэтах бяспекі) гаварыць не мог і пакінуў кантакты свайго сябра. Той параіў напісаць зняволенаму ліст, каб даведацца пра сітуацыю з першых вуснаў. Я так і зрабіла, даслаўшы ліст у канверце першага класа, каб можна было сачыць за адпраўленнем. Праз колькі дзён на сайце «Белпошты» я ўбачыла, што ліст у калонію дайшоў, і стала чакаць адказ.

Праходзілі тыдні, а яго ўсё не было. Аднойчы раздаўся тэлефонны званок — жанчына, якая прадставілася Наталляй, паведаміла, што яе муж і сын сядзяць разам з чалавекам, якому я напісала ліст. Ён змог перадаць, што атрымаў маё пасланне, але ад яго карэспандэнцыю не выпускаюць. Таксама суразмоўца сказала, што ўсіх траіх — яе мужа, сына і майго адрасата — зноў кінулі ў ШІЗА, на той момант яны знаходзіліся там ужо два тыдні, і ім працягнулі ўтрыманне яшчэ на 10 сутак. Вязні на знак пратэсту абвясцілі галадоўку. Наталля звярталася і ў Дэпартамент выканання пакаранняў, і ў Генпракуратуру, але ёй прыходзілі адпіскі, што ўсё ў рамках заканадаўства.

«Сын перад тым, як іх змясцілі ў ШІЗА, пазваніў і паведаміў, што да іх перадузятае стаўленне, яны атрымліваюць пагрозы, ім ставяць у віну адмову ад працы. Хаця яны працуюць, але зарплату ім, канечне, не плацяць. Я бачыла іх разлік — летась там, напэўна, рубель быў. Сын сказаў: "Чаму мы павінны працаваць бясплатна?". Відаць, яны непажаданыя тым, што не маўчаць», — кажа Наталля.

Яна паведаміла, што яе муж і сын займелі праблемы са здароўем: сын страціў слых, з'явілася грыжа ў спіне, у мужа — язва і артроз.

«Я так разумею, што скаргі на здароўе таксама расцэньваюцца імі (адміністрацыяй. — «НЧ») як нежаданне працаваць», — дадае Наталля.

Жанчына звярталася ва ўсе магчымыя інстанцыі, каб вырашыць пытанне з працоўнымі адносінамі зняволеных у калоніі.

«Прыйшлі адпіскі, што заработная плата 25 %, здзельна-прэміяльная аплата, але насамрэч нічога там не аплачваецца. Муж сказаў, няма таго, што пішуць. Я не ведаю, што сказаць, гэта такая сістэма, якую немагчыма на дадзены момант змяніць», — гаворыць Наталля.

Пазней яна паведаміла, што муж выйшаў з ШІЗА, а сына пакінулі ў ізалятары на 40-я суткі.

«Муж расказваў, якія там умовы ўтрымання. Чатыры вугалкі зваранага, дошкі зверху, вельмі холадна. Ён там не спаў, давodзілася адціскацца па чатыры разы за ноч, каб сагрэцца. Цяпер стала холадна (на вуліцы. — «НЧ»), перажываю за сына, званка няма. Я напісала начальніку ПК, што прашу растлумачыць адсутнасць званкоў ад маіх родных, і літаральна ў той жа дзень муж патэлефанаваў мне, а потым нават дазволілі скайп-званок».

### Стачка ў калоніі скончылася ШІЗА і ПКТ

26 кастрычніка з калоніі «Віцьба-3» выйшаў беларускі добраахвотнік на Данбасе Тарас Аватараў. Ён распавёў, што знаёмы з чалавекам, якому я даслала ліст, па стачкаму «Віцьбы-3». Так, аказваецца, калі ў жніўні пасля выбараў на беларускіх прадпрыемствах паўставалі стачкамы і ладзіліся страйкі, тое ж самае адбывалася і ў зняволенні!

«Яго ліхтугі на "Віцьбе" пачаліся з перадвыбарчай кампаніі. Бо яны сабралі немалую каманду аднадумцаў, упэўненых у тым, што ў гэты раз Лукашэнка не ўтрымаецца ў сядле, — распавядае Тарас Аватараў. — Мы (стачкам) сфармавалі афіцыйны запыт-апавяшчэнне адміністрацыі аб пачатку забастоўкі па сацыяльна-працоўных пытаннях (бо першая палітычная стачка не прайшла) і праз два тыдні пачалі стачку. У выніку практычна ўвесь стачкам сышоў у ШІЗА і ПКТ».

Па яго словах, у ПКТ (памяшканне камернага тыпу) без рашэння суда быў змешчаны нават чалавек, які не меў ніводнага парушэння рэжыму.

Аватараў сцвярджае, што «ў лагеры няма тых, хто падтрымлівае Лукашэнку. А супрацоўнікі адміністрацыі вымушаны ездзіць на праўладныя мітынгі і разгоны: «Тыя ж самыя ВВшнікі (байцы ўнутраных войскаў. — «НЧ»), якія ахоўваюць, заяўляюць адкрыта, каб хутчэй яго ўжо скінулі. Таму ў лагеры абстаноўка таксама абвостраная, як у Каменнай горцы ці Фрунзенскім раёне Мінска».

Што да працы зняволеных, Тарас, які працаваў на швейнай вытворчасці і, у прыватнасці, рабіў супрацькавідныя касцюмы, зазначае, што за апошнія тры месяцы ён зарабіў у калоніі не больш за рубель (разлік ён так і не атрымаў, хаця павінен быў атрымаць цягам 3 сутак па вызваленні), у той час як на кожнага асуджанага ў месяц закрываецца каля 400 рублёў зарплаты.

Але куды ідуць гэтыя грошы, калі зняволеныя іх не бачаць?

«У Крымінальна-выканаўчым кодэксе (КВК) і больш падрабязна ў падручніках па крымінальна-выканаўчым праве распісваецца парадак вылічэння з зарплаты. Спачатку ідзе падаходны падатак і ўнёсак у ФСАН (13 %). Потым спаганяюцца аліменты (з тых, у каго дзяцей забралі ў дзетдом), потым вылічваюцца выдаткі на камунальныя плацяжы і харчаванне. На піку пандэміі я меў нядрэнную зарплату па маштабах калоніі ў 25 рублёў, гэта пры ўліку маёй асабістай выпрацоўкі больш чым на 190 рублёў. Бо "за камуналку" нават у летнія месяцы вылічвалі каля 137 рублёў. Хоць напачатку года сума гэтых плацяжоў не перавышала 107—110 рублёў. Такім чынам, 190 рублёў - 13% ФСАН - 137 рублёў = 25 рублёў. Дзесяці такія вылічэнні ў вельмі добры месяц, калі і ты робіш шмат, і ўся вытворчасць робіць шмат. Калі вытворчасць робіць мала, лічы, што твая здзелка будзе дзяліцца яшчэ як мінімум на трох аліментнікаў у цэху», — тлумачыць Тарас.

### «Шмат магчымасцяў зрабіць так, каб вонкава ўсё выглядала законна»

Праваабаронца Васіль Завадскі зазначае, што заканадаўства прадугледжвае магчымасць прыцягнення зняволеных да неаплачвальных работ толькі па калектыўным самаабслугоўванні (у тым ліку па прыборцы і добраўпарадкаванні папраўчых устаноў і прылеглых да іх тэрыторый), і працягласць такіх работ не павінна перавышаць 14 гадзін у тыдзень (артыкул 101 КВК).

— Гэта вельмі шмат, канечне. Па вялікім рахунку, гэта рабская праца, але гэта прапісана на сённяшні дзень у законе, — каментуе праваабаронца. — За ўсю астатнюю працу — і гэта прапісана ў папярэднім, сотым артыкуле КВК, — зняволены мае права атрымліваць заробак у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Васіль Завадскі дадае, што, паводле КВК, адмова ад працы лічыцца злосным парушэннем рэжыму ўтрымання. А даказаць, што зняволены адмаўляецца ад працы з той прычыны, што яму не плацяць, вельмі складана.

— Вельмі проста — і гэта ўсюды робіцца — заплаціць зняволенаму 20 капеек і сказаць, што яму плацяць. На жаль, у адміністрацыі шмат магчымасцяў зрабіць так, каб вонкава ўсё выглядала нібыта законна. Гэта распаўсюджаная практыка, і тут вялікая праца для нас, праваабаронцаў. Сітуацыю, безумоўна, трэба мяняць. Бо рэсацыялізацыя зняволеных павінна перш за ўсё адбывацца праз працу, каб, выйшаўшы на волю, яны ішлі зарабляць, а не красці. А такія падыходы, наадварот, дэматывуюць.

Што да спробы стачак у калоніі, Васіль Завадскі не мае пацвярджэння такіх звестак, але з неафіцыйных крыніц такія чуткі даходзілі. Але з улікам таго, што пенітэнцыярная сістэма Беларусі фактычна цалкам закрытая, то ёсць усе падставы меркаваць, што і за кратамі адбываецца змаганне.

# Міхаіл Жамчужны: 500 сутак у ШІЗА і 100 дзён да вызвалення

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Днямі атрымаў ліст ад палітвязня Міхаіла Жамчужнага. Ён прабыў 20 сутак у ШІЗА (як заўсёды, за адмову прайсці ў той атрад, дзе, па яго інфармацыі, знаходзяцца асобы з нізкім турэмным статусам). Цяпер атрымаў «дэмбельскі акорд» — тры месяцы ў ПКТ (памяшканне камернага тыпу). Гэта азначае, што ён можа атаварвацца ў турэмным шапіку, атрымліваць карэспандэнцыю і адпраўляць лісты.**

Жамчужны піша, што стаў верыць у нумаралогію. На 11.11.2020 выпала роўна 500 сутак яго амаль бесперапыннага знаходжання ў ШІЗА. Цяпер у яго маецца падстава для падачы заяўкі ў Кнігу штогадовых рэкордаў Гінеса па працягласці знаходжання ў штрафным ізалятары (праўда, прыйдзецца заснавальнікам кнігі растлумачыць, што такое ШІЗА і ў чым сэнс доўгачасовага ў ім утрымання).

Вось як Жамчужны апісвае сваё знаходжанне ў гэтым бетонным склепе без вокнаў і дзвярэй: «...8 градусаў на вуліцы, 8 градусаў у трубе. Разам атрымліваецца 16. Наматаўся на трубу, як удаў, і правёў час, як на Канарах».

Яшчэ адна «радасць» Жамчужнага: яму засталося адбыць да заканчэння тэрміну зняволення 100 сутак. Як ён піша, шэсць з паловай гадоў прайшлі ў выпрабаваннях духу і ў яднанні з сябрамі, якія ў думках былі з ім. Паводле яго разлікаў, ён выйдзе на волю 19.02.2021 (запомнім гэтую дату і будзем рыхтавацца да сустрэчы. А можа быць, яна адбудзецца і раней?).

Жамчужны цікавіцца навінамі «з волі». Ведае пра геройскія паводзіны Ніны Багінскай, сцяганосца беларускіх пратэстаў.

У канцы ліста Жамчужны віншуе праваабаронцаў, грамадскіх актывістаў і ўсіх прыхільнікаў прававой дзяржавы з Міжнародным днём правоў чалавека, які адзначаецца 10 снежня (у гэты дзень у 1948 годзе Генеральная Асамблея ААН прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, дзе замацаваныя яго асноўныя правы і свабоды).

**Даведка «НЧ».** Міхаіл Жамчужны нарадзіўся ў 1955 годзе ў Віцебску. Працаваў у Віцебскім тэхналагічным універсітэце. Дацэнт, кандыдат тэхнічных навук, аўтар некалькіх навуковых манаграфій і распрацовак.

Першым у краіне зарэгістраваў самаробны аўтамабіль на альтэрнатыўным паліве. Ва ўніверсітэце кіраваў лабараторыяй, якая займалася праблемамі прамысловага вырабу вадароду. Нечаканая дзейнасцю навукоўцаў зацікавіўся КДБ. Супраць кіраўніка лабараторыі распачалі крымінальную справу. Жамчужнаму прапанавалі супрацоўнічаць з КДБ, даць паказанні супраць начальства. Ён адхіліў гэтыя прапановы, і ў 2007 годзе яго асудзілі на 5 гадоў пазбаўлення волі па артыкуле 210 КК «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі».

Жамчужны спрабаваў абскардзіць свой прысуд, аднак справа была складаная: яна тычылася навуковых распрацовак і вымагала вялікіх грошай на адвакатаў, спрактыкаваных у гэтай сферы.

Пасля вызвалення ў 2012 годзе Жамчужны ад ідэі рэабілітаваць сваё імя адмовіўся і на працу ва ўніверсітэт прынцыпова не вярнуўся. Ён далучыўся да праваабарончай арганізацыі «Платформа», дзе займаўся зборам інфармацыі пра сітуацыю ў месцах зняволення. Пасля ліквідацыі «Платформы» пагадзіўся стаць заснавальнікам новай арганізацыі «Платформа інавэйшн».

Жамчужнага арыштавалі праз тыдзень пасля абвяшчэння прысуду ў дачыненні да дырэктара «Платформа інавэйшн» Андрэя Бандарэнкі. Падрабязнасці пра абставіны крымінальнай справы супраць Жамчужнага не выдаюцца. Адвакат адмовіўся ад кантактаў, матывуючы гэта падпіскай пра невыдаванне звестак. Аднак удалося высвятліць, што Жамчужнаму інкрымінавалі абвінавачанне па некалькіх артыкулах КК — 376 (ч. 1, ч. 2), 375 (ч. 1), 431 (ч. 1, ч. 2). Гэта — наймыснае выдаванне службовых сакрэтаў, незаконнае набыццё (выраб) сродкаў для сакрэтнага атрымання інфармацыі, а таксама дача хабару.

10 ліпеня 2015 года Віцебскі абласны суд прызнаў яго вінаватым і прыгаварыў да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь разгледзела касацыйную скаргу на прыгавор і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Цяпер Жамчужны знаходзіцца ў калоніі № 9 у Горках (Магілёўская вобласць).

Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі Міхаіла Жамчужнага палітычным зняволеным.

# «Улада хоча стварыць краіну строгага рэжыму»

**Палкоўнік юстыцыі, следчы ў асабліва важных справах аднаго з аддзелаў Следчага камітэта Іван Агееў (імя і прозвішча зменены на яго просьбу) у размове з радыё «Свабода» расказаў, якія цяпер настроі ў сілавым блоку, чаму ніводзін праваахоўнік не пакараны за перавышэнне паўнамоцтваў і як ён успрыняў сваё з'яўленне ў спісе «карнікаў Беларусі».**



### «Свярбяць рукі распачаць крымінальную справу за гвалт»

«Ад самага пачатку працы ў сілавых структурах нам казалі: міліцыянт, следчы мусяць заставацца па-за палітыкай, — кажа кадравы сілавік. — Я згодны, але ў тым выпадку, калі выконваецца асноўны прынцып: кожны роўны перад законам. Толькі пры такім раскладзе супрацоўнік можа сказаць: я па-за палітыкай, бо на варце закону. Не важна, хто перада мной: злодзей, які нешта скраў, ці высокі чыноўнік, ці сілавік. На жаль, гэты прынцып, закладзены і ў Канстытуцыі, пачаў парушацца, калі прынялі новы Крымінальна-працэсуальны кодэкс. З'явіліся касты "недатыкальных". Маецца на ўвазе асаблівы парадак завядзення крымінальных спраў адносна шэрагу асобаў — дэпутатаў, міністраў і г. д.».

У тым, што закон не для ўсіх аднолькавы, беларусы змаглі пераканацца падчас драматычных падзеяў адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў. Тысячы адміністрацыйных і крымінальных справаў супраць удзельнікаў мірных акцый і ніводнай — за беспрэцэдэнтны гвалт, учынены калецтвы і нават забойствы мірных грамадзянаў сілавікамі.

«Шмат следчых абураны дзеяннямі праваахоўнікаў. Ёсць закон аб органах унутраных справаў, дзе вызначана ўжыванне фізічнай сілы, спецсродкаў, зброі. Усе маюць калегі сядзяць у тэлеграм-каналах, бачаць ролікі з разгонаў. І калі амапавец беспрычынна б'е нагой у твар — гэта перавышэнне паўнамоцтваў. У законе, у тым ліку, сказана: сілавік павінен імкнуцца прычыніць найменшы ўрон здароўю. Калі чалавек не супраціўляецца, навошта малаціць яго дубінкай?»

Працэсы не пачынаюцца толькі таму, што кіраўніцтва краіны цудоўна разумее: першая ж крымінальная справа супраць канкрэтнага супрацоўніка сілавых структур стане пачаткам канца цяперашняй сістэмы. Бо той, хто будзе далей удзельнічаць у разгонах, ужо задумаецца: "Наступным у судовым канвееры магу стаць я". Тым больш ёсць праграмы распазнавання твараў, схавацца ад правасуддзя складана. Асабіста ў мяне вельмі свярбяць рукі пры наяўнасці складу злачынства завесці крымінальную справу па факце гвалту з боку байцоў АМАП ці іншых падраздзяленняў», — адзначае Іван.

Аднак, паводле суразмоўцы, сістэма ў літаральным сэнсе звязала рукі сваім сумленным падначаленым.

«Існуе пэўная працэдура: любое рашэнне мусіць узгадніць кіраўнік, — тлумачыць ён. — І, хоць ёсць некаторыя працэсуальныя хітрасці, юрыдычныя пралазы, таму ж следчаму празмерная актыўнасць і прынятае рашэнне пагражае звальненнем ці непрацягненнем кантракту. І гэта ўжо адбываецца: у аднабаковым парадку спыняюцца службовыя пагадненні, нягледзячы ні на пасады, ні на чыны, ні на заслугі — ад следчага да намесніка кіраўніка ўпраўлення Следчага камітэта. Такія факты ўжо ёсць».

### «Выкарыстанне зброі ў крайніх выпадках»

Следчы Агееў не верыць, што крымінальныя справы супраць вінаватых у гвалце пры цяперашнім рэжыме магчымыя ў прынцыпе.

«На пачатку выбарчай кампаніі ўжо былы кіраўнік МУС Юрый Караеў і яго намеснікі сустракаліся з супрацоўнікамі буйных аддзелаў унутраных спраў. Было сказана прыкладна наступнае: «Вам можна ўсё. Не падвядзіце». На той момант, калі я гэта пачуў, зразумеў крыху інакш: усё, але ў рамках закону, дзе абсалютна зразумела прапісанае ў тым ліку выкарыстанне агнястрэльнай і траўматычнай зброі. У самых крайніх выпадках і толькі па нагах, каб прычыніць найменшую шкоду здароўю. А не прыцэльна ў галаву ці ў грудзі. Нават у страшным сне не мог уявіць, што будзе так, як было ў жніўні і паўтараецца цяпер. Што "ўсё" — гэта ў літаральным сэнсе "ўсё".

Гаранты беспакаранасці для сілавікоў «Свабодзе» пацвердзіў і адзін з былых супрацоўнікаў цэнтральнага апарату Генпракуратуры. Калі ў пачатку верасня на пасаду кіраўніка ведамства быў прызначаны Андрэй Швед, ад яго імя быў падпісаны «праграмны дакумент», у якім прызнавалася правамернасць гвалту і зняшчаўся пералік мераў для кожнага прафільнага ведамства ў рэагаванні на розныя формы пратэстаў.

Паводле крыніцы, там распісана ўсё, што адбываецца проста цяпер. Фактычна дакумент пазбавіў магчымасці ініцыяваць пракурорскія праверкі кшталту той, што спрабавалі правесці ў справе пабітых байкераў. Як вынік, у знак пратэсту пачалі звальняцца аўтарытэтныя супрацоўнікі пракуратуры. Дакумент носіць грыф сакрэтнасці, кола доступу да яго моцна абмежаванае.

### «Крок улева, крок управа — турма»

За чатыры месяцы, пачынаючы ад 9 жніўня, амаль 32 тысячы чалавек затрымалі за «парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах». Лічба рызыкуе імкліва расці і далей.

«Стэлефанаваліся з сябрам, разам скончалі акадэмію МУС. Юрыст паводле адукацыі, ён у шоку: крымiналка за паўторны ўдзел у акцыі! Што вынікае? Сістэма хоча зрабіць краіну строгага рэжыму. Крок улева, крок управа — турма. А неўзабаве і расстрэл, калі будзем рухацца такімі тэмпамі. Аднак жа, сам сабе думаю. Ну вось, падпішу змены ў кодэкс той, хто трапіў на пасаду прэзідэнта сумнеўным шляхам, а мне давядзецца прыцягваць да адказнасці чалавека, які другі раз выйшаў на мітынг. Для сумленных службоўцаў гэта стане апошняй кропляй. І гледзячы на тое, што адбываецца навокал, не здзіўлюся, што такія "навелы" і праўда могуць прыняць».

Сваякі па некалькі дзён не могуць знайсці сваіх схопленых родных, зброя і спецтэхніка супраць мірных грамадзянаў ператварыліся ў будзённасць. А забойства мастака Рамана Бандарэнкі стала кульмінацыяй беспакаранасці.

Яшчэ адной адметнасцю своеасаблівага «дыялогу» ўлады і грамадства стала мэтанакіраванае паляванне на журналістаў. Ніколі яшчэ ў суверэннай гісторыі Беларусі не было столькі справаў паводле сумна вядомага артыкула 23.34. Замест «ахоўнай граматы» камізэлька з надпісам «Прэса» і рэдакцыйны бэдж сталі мішэнямі — дзясяткі супрацоўнікаў СМІ аштрафаваныя, пазбаўленыя акрэдытацыі МЗС, адбылі адміністрацыйныя арышты.

«Гэта ж глупства, — канстатуе палкоўнік юстыцыі. — Маўляў, такім чынам народ не ўбачыць, што сапраўды творыцца падчас разгонаў. Ужо шмат абмяркоўвалася і аналізавалася, таму ўсе цудоўна бачаць, якая мэта: будзе менш праўдзівай інфармацыі, дык градус актыўнасці астыне, пратэст садзьмецца і зажывём, як раней. Але не трэба спецыяльнай адукацыі, каб зразумець: як раней, пры гэтым рэжыме не будзе! Іх рэсурс вычэрпаны. Да таго ж заўсёды ёсць запасныя пляцоўкі, куды ўлада сама людзей і выштурхоўвае — тыя ж тэлеграм-каналы. Акрамя таго, сёння кожны сам сабе і блогер, і журналіст, і відэааператар, працэсу ўжо не спыніць».

### «Многіх людзей у пагонах ужо не магу назваць сваімі калегамі»

Тысячы супрацоўнікаў сілавых структур за свой ваяўнічы імпэт трапілі ў розныя «ганебныя спісы» — ад «Карнікаў Беларусі» да «Чорнай кнігі». У тым пераліку і наш суразмоўца.

«Калегі падыходзілі: маўляў, пішы заяву, пачнём праверку. Я адмовіўся, бо разумею логіку "партызанаў". Не ведаю эфектыўнасці тых каналаў, але ў мяне няма на іх злосці. Людзі абураныя сістэмай у цэлым. Ды і я таксама ёю абураны. На жаль, яна даўно перастала працаваць, як павінна. І не я адзін, у спісе нямала тых, хто не вінаваты ў тым, што ім прыпісваюць. Што тычыцца следчых, яны ў асноўным там «за кампанію». Пераважная частка выдатна ўсведамляе, што такое парушыць закон. Што да астатніх… Думаю, бальшыня на "дошцы ганьбы" цалкам заслужана».

Палкоўнік юстыцыі кажа, што за апошнія месяцы кола яго ных кантактаў істотна звузілася. Найперш адваліліся тыя людзі ў пагонах, якія не толькі не паставілі пад сумнеў сілавыя акцыі, а дагэтуль лічаць іх «неабходнымі» для навядзення парадку. Або моўчкі пагаджаюцца.

«На жаль, многіх ужо не магу назваць сваімі калегамі, — катэгарычны ён. — З міліцыянтамі так ці інакш даводзіцца кантактаваць падчас працы, у расследаванні крымінальных справаў. І калі раней маглі пагаварыць на асабістыя тэмы — як жонка, дзеці, лецішча, рыбалка — дык цяпер цяжка перасіліць сябе, каб нават павітацца. Маё стаўленне да іх адназначнае: яны саўдзельнікі злачынства ўлады супраць беларускага народа. Не перабольшу, калі скажу, што прынамсі ў камітэце шмат хто падзяляе мой погляд і на падзеі ў краіне, і на ролю ў гэтым нашых былых знаёмцаў з органаў унутраных спраў».

Сам следчы Агееў падчас размовы схіляўся да таго, што пры канцы кантракту 31 снежня будзе яго апошні працоўны дзень у Следчым камітэце — хоць сябры і ўгаворвалі не рабіць паспешлівых крокаў. Хвалюе найперш тое, працягвае суразмоўца, што пачнуць набіраць не вельмі кампетэнтных супрацоўнікаў, так званых «сакратароў», якія, не задумваючыся, будуць выконваць загады, а не законы.

### «Больш хвалюе сумленне»

Ці разглядае ён магчымасць з'ехаць з краіны, як гэта ўжо зрабілі некаторыя службоўцы?

«Не хачу казаць высокіх словаў пра патрыятызм, але гэта мая краіна. Каб быў маладзейшы і бачыў за мяжой перспектывы, можа, і так. Але яшчэ магу быць карысным і на радзіме. Хай не ў праваахоўных органах, ёсць іншая праца, я не цураюся. З улікам апошніх падзеяў, безумоўна, разглядаў варыянты — ад публічнага звальнення да сыходу пасля заканчэння кантракту або перакваліфікацыі. Не баюся, што пакіну камітэт і застануся галодны. Не праблема зарабляць менш. Больш хвалюе сумленне. Я заўсёды зычыў калегам, каб маглі сказаць: "Гонар маю!"».

Паводле суразмоўцы, за апошнія чвэрць стагоддзя вертыкаль улады цалкам разышлася ў цывілізацыйных памкненнях з уласным народам, асабліва з яго новай генерацыяй.

«Сёння людзі ўжо не даруюць забітых, пакалечаных, кінутых у турмы… Я ўпэўнены: пройдзе некалькі месяцаў — і час расставіць усё на свае месцы. Гонар, сумленне і здаровы сэнс пераможуць», — падсумоўвае палкоўнік юстыцыі Іван Агееў.

Многія супрацоўнікі праваахоўных органаў, якія кінулі выклік сістэме, трапілі пад крымінальны пераслед і наступны фізічны ды маральны прэсінг. Не выключае для сябе падобнага развіцця падзеяў і спрактыкаваны следчы — не з размоваў ведае пра надзвычайную помслівасць сілавікоў.



Сяргей ПУЛЬША

# Валянцін Стэфановіч: У нас працягваюцца злачынствы супраць бяспекі чалавецтва

**Больш за 30 тысяч затрыманых цягам апошніх месяцаў — гэта можна параўнаць з тым, што за краты кінулі два Мінскія трактарныя заводы. Больш за 28 тысяч сутак арышту для дэманстрантаў — калі перавесці іх у месяцы і гады, то гэта прыкладна 78 гадоў — поўнае чалавечае жыццё ад нараджэння да смерці.**

Больш за 900 крымінальных спраў, звязаных з палітыкай — гэта як пагалоўна пасадзіць такую дзяржаву, як Ватыкан. Тысячы заяваў у Следчы камітэт па фактах катаванняў з боку сілавых падраздзяленняў — і ніводнай узбуджанай крымінальнай справы. Больш за тое, некалькі смерцяў дэманстрантаў — і таксама нуль крымінальных спраў па гэтых фактах.

На такім фоне Беларусь сустрэла 10 снежня — Міжнародны дзень абароны правоў чалавека. Не дзіва, што некаторыя СМІ, асабліва замежныя, назвалі падзеі ў Беларусі «гуманітарнай катастрофай».

### Да «гуманітарнай катастрофы» пакуль не дайшлі

Але ў нашым паняцці «гуманітарная катастрофа» — гэта дзясяткі тысячаў знясіленых уцекачоў на мяжы, галодных і босых, якія ўсімі праўдамі і няпраўдамі імкнуцца выбрацца са сваёй краіны. Гэтага мы, на шчасце, пакуль не назіраем. А можа, толькі пакуль?

Наколькі можна назваць нашую сітуацыю «гуманітарнай катастрофай»? Праваабаронца Валянцін Стэфановіч не апераваў бы такімі гучнымі азначэннямі.

— У кантэксце паняцця «гуманітарная катастрофа», што назіраецца ў міжнародным праве, канечне, у нас такога няма. Гуманітарная катастрофа — гэта калі Савет Бяспекі ААН прымае рашэнні аж да вайсковых інтэрвенцый і гуманітарных місій. Асабліва калі гэта голад ці вайна. Таму, калі ў нас ужываюць гэтае словазлучэнне, то гэта літаратурнае перабольшанне. Мы, праваабаронцы, гаворым пра глыбокі крызіс правоў чалавека і пра прававы дэфолт. Гэта відавочная дэвальвацыя прававой сістэмы, яна ў нас перабудаваная не на абарону правоў чалавека, а на рэпрэсіўныя захады.

### Злачынства супраць чалавецтва

Пазбаўлены ўладамі рэгістрацыі праваабарончы цэнтр «Вясна» кажа, што ў нас было здзейснена «злачынства супраць бяспекі чалавецтва».

А вось такое азначэнне, па словах Стэфановіча, цалкам слушнае. Больш за тое, яно грунтуецца не толькі на міжнародных стандартах, але і на айчынным заканадаўстве.

— Калі мы кажам пра «злачынства супраць бяспекі чалавецтва», можна спасылацца не толькі на «Вясну», а на даклад, які зроблены ў межах Маскоўскага механізму АБСЕ. Там таксама пра гэта гаворыцца. Але, калі мы ўжывалі гэтае азначэнне, сыходзілі з артыкула 128 нашага Крымінальнага кодэкса, у дыспазіцыю якога ўваходзяць у тым ліку і масавыя палітычна матываваныя катаванні. Калі мы рабілі свой даклад «Беларусь у паслявыбарчы перыяд», мы казалі, што катаванні насамрэч насілі масавы і сістэмны характар.

Па яго словах, катаванні, якія адбываліся ў службовых аўтамабілях, РУУСах і ізалятарах нельга назваць нейкім «эксцэсам выканаўцаў», некалькіх міліцыянтаў ці некаторых падраздзяленняў. Гэта, на яго думку, была спланаваная акцыя, паколькі дзеянні міліцыянтаў былі аднолькавымі па ўсёй тэрыторыі краіны.

— Гэта не было два-тры выпадкі, толькі ў Следчы камітэт было пададзена больш за дзве тысячы зваротаў ахвяраў. А калі ўлічваць традыцыйную латэнтнасць ахвяраў катаванняў, якія не заяўлялі пра гэта ані праваабаронцам, ані, тым больш, у следчыя органы, то лічбу можна павялічваць мінімум утрая. Зыходзячы з тых апісанняў, якія мы атрымалі, я думаю, што кожны другі з затрыманы падвергся катаванням альбо жорсткаму і бесчалавечнаму абыходжанню. Асабліва ў першыя дні, а іх там было вельмі шмат. І плюс — гэта нікуды не падзелася, гэта працягваецца і цяпер. Збіццё ў аўтатранспарце і гэтак далей.

Гэтыя дзеянні былі палітычна матываванымі. Гэта ўяўна прасочваецца з таго, што апісвалі ахвяры. Гэта была карная акцыя ў дачыненні да людзей за тое, што яны прынялі ўдзел у антыўладных дэманстрацыях. Гэта і размовы амапаўцаў пра тое, што «мы зараз пакажам, за каго трэба было галасаваць», «хто твой прэзідэнт», загады спяваць дзяржаўны гімн, абвінавачанні, што дэманстранты — праплочаныя Захадам здраднікі… Усё падобнае рабілася не проста так, гэта была паказальная палітычна скіраваная экзекуцыя.

**Катаванні, якія адбываліся ў РУУСах і ізалятарах, нельга назваць нейкім «эксцэсам выканаўцаў». Гэта была спланаваная акцыя, паколькі дзеянні міліцыянтаў былі аднолькавымі па ўсёй тэрыторыі краіны**



Фота www.spring96.org

Сапраўды, артыкул 128 уключае ў сябе не толькі «катаванні і акты жорсткасці» ў сувязі з, сярод іншага, палітычнымі перакананнямі, але і такія рэчы, як дэпартацыя і незаконнае ўтрыманне ў зняволенні. І такіх фактаў у нас таксама было багата.

### Крызіс і прававы дэфолт

Валянцін Стэфановіч кажа, што для ацэнкі сітуацыі ў краіне як крызісу, прававога дэфолту і дэвальвацыі прававой сістэмы багата фактараў і падыходаў:

— Ёсць розныя падыходы, як ацэньваць сённяшнюю сітуацыю. Можна проста па лічбавым паказніку — такой колькасці затрыманняў, перасяледу ў нас не было ніколі. Больш за 30 тысяч чалавек былі затрыманыя за ўдзел у мірных сходах. Крымінальны пераслед перакрыў усе папярэднія крызісы, якія мы назіралі ў 2006, 2010 гадах. Толькі па дадзеных Генеральнай пракуратуры заведзена больш за 900 крымінальных спраў, — мы нават не ўсе прозвішчы ведаем. Кожны дзень мы назіраем судовыя працэсы, якія мы імкнемся адсочваць. Ужо 160 палітвязняў — і лічба абсалютна не канчатковая, па выніках атрымання інфармацыі і прозвішчаў мы будзем прызнаваць людзей такімі, і плюс яшчэ па ацэнцы судоў, асабліва з так званымі «гвалтоўнымі складнікамі» — 363, 364 артыкулы Крымінальнага кодэксу за гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі, іх ацэнка кожнага працэсу. Шмат што сведчыць пра тое, што гэта быў або «сімвалічны гвалт» кшталту хапання за вопратку, — і абсалютна непрапарцыйныя ўчынкам прысуды ў звязку з гэтым. І плюс, яшчэ трэба разумець кантэкст — тое, што дэманстранты былі атакаваныя міліцыяй, і гэта выклікала такі адказ на гвалт, які часам насіў характар самаабароны ад непрапарцыйных дзеянняў міліцыянтаў.

Таму, на думку праваабаронцы, і гэтыя людзі будуць таксама прызнавацца палітвязнямі. Праваабарончая супольнасць будзе патрабаваць калі не неадкладнага іх вызвалення, то як мінімум перагляду іх спраў.

— Другі паказнік — у цэлым мы бачым, што прававая сістэма краіны на нацыянальным узроўні аказалася цалкам не здатнай для яе скарыстання ў мэтах абароны парушаных правоў людзей. Тыя ж выпадкі катаванняў: больш за 2000 заяваў у Следчы камітэт — і ніводнай крымінальнай справы не было ўзбуджана. Мала таго, цяпер людзі атрымліваюць пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальных спраў на той падставе, што не ўстаноўленыя асобы, якія здзяйснялі катаванні.

Як лічыць Стэфановіч, гэтыя адмовы парушаюць Крымінальна-працэсуальны кодэкс. Невызначэнне асобы, якая здзяйсняла катаванні — не падстава для таго, каб адмовіць ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Крымінальныя справы могуць быць прыпыненыя па гэтай падставе да высвятлення асобаў, іх трэба шукаць. Але яны ўсё ж павінны быць заведзеныя.

А ў некаторых выпадках улады проста карыстаюцца «падменай паняццяў».

— Выпадкі смерцяў — мы гаворым пра як мінімум чатыры такія выпадкі, непасрэдна звязаныя з пратэстамі, якія адбыліся з-за дзеянняў супрацоўнікаў МУС альбо афіляваных з імі асобаў, як у выпадку з Раманам Бандарэнкам, калі такія асобы дзейнічалі відавочна ў інтарэсах улады і пад прыкрыццём уладаў. Там, дарэчы, таксама незразумела, што было прычынай смерці — дзеянні гэтых асобаў ці дзеянні супрацоўнікаў МУС, паколькі Бандарэнка быў у РУУС дзве гадзіны.

Нам кажуць, што ён быў п'яны, і што гэта была нібыта побытавая бойка. Але нават калі ўзяць гэтую ўладную версію, — я не ведаю такога выпадку, каб у выніку побытавай бойкі адбылося забойства, і па гэтым факце не была ўзбуджана крымінальная справа. «Побытавая бойка», «п'яны» — учапіліся за другасныя рэчы. Першасная справа, што ніякіх расследаванняў не праводзіцца. А відэа відавочна сведчыць пра супрацьпраўныя дзеянні, якія былі здзейсненыя ў дачыненні да яго, у выніку чаго, верагодна, ён загінуў.

І выпадак з Тарайкоўскім: на відэа абсалютна дакладна бачна, што яго застрэлілі фактычна ва ўпор, і супрацоўнікі міліцыі відавочна бачылі, што ён не ўзброены і не ўяўляе пагрозы. Гэта было незаконнае ўжыванне зброі, гэта адвольная смерць. Там ёсць пытанне кваліфікацыі: наўмыснае забойства, ненаўмыснае — гэта іншае пытанне, але крымінальная справа павінна быць узбуджаная.

Немагчымасць выкарыстаць для абароны правоў чалавека ні суды, ні пракуратуру, якая проста бяздзейнічае. Проста няма ніякіх дзеянняў! Ніхто не звяртае ўвагі на ўмовы ўтрымання людзей у ізалятарах. Куча інфармацыі ў СМІ пра тое, у якіх умовах знаходзіцца тая ж Вольга Хіжынкова. Хто-небудзь з пракуратуры правёў праверку па фактах гэтых публікацый? Хто-небудзь паехаў у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў, паглядзеў, што там адбываецца? Ніхто і нічога.

Плюс шырокі погляд на правы ў нас сёння — настолькі шырокі, што часам даходзіць да абсурдных рэчаў. Пікеты на ўласных гаўбцах, 10 гадоў турмы за надпіс «Мы памятаем» на асфальце, нібыта шкода ў буйным памеры.

Там што, асфальт трэба было перакладаць па ўсім праспекце Пушкіна? Дзякуй богу, ад гэтага адмовіліся і зменшылі суму стратаў у 40 разоў. Але сам падыход — уражвае.

Два месяцы арышту за надпіс «Жыве Беларусь» на трансфарматарнай будцы, калі яна ўся размаляваная выявамі чэлесаў... Але чэлесы нікога не турбуюць, а за «Жыве Беларусь» чалавека садзяць на два месяцы ў турму. Пры тым, што маёмасць не пашкоджаная, не знішчаная, надпіс — не цынічнага зместу.

І такіх фактаў — вельмі шмат. Таму гэта і называецца «прававы дэфолт». Калі нічога не працуе, калі на нацыянальным узроўні абараніць чалавека немагчыма. Калі прававая сістэма вельмі хутка перабудавалася на рэпрэсіўныя падыходы, абсалютна забыўшыся на тое, што адна з яе асноўных функцый — гэта абарона правоў грамадзянаў.



Фота НЧ

### Складанасць для свету

Калі ў краіне — прававы дэфолт і немагчыма дамагчыся абароны правоў чалавека ў нацыянальных інстанцыях, то варта звяртацца ў інстанцыі міжнародныя. Што робяць праваабаронцы ў міжнародных структурах? Якія структуры і механізмы для гэтага могуць быць задзейнічаныя?

Праваабаронца адзначае, што цяпер задзейнічаныя ці не ўсе мажлівыя міжнародныя рэсурсы і арганізацыі, якія могуць хоць неяк паўплываць на нашую сітуацыю. Але праблема ў тым, што міжнароднае права адносіцца да так званага «мяккага» права. Яно выбудаванае на прызнанні дзяржавай сваіх абавязальніцтваў у галіне правоў чалавека, прызнанні міжнародных дамоваў, і прызнанні міжнародных органаў. Беларусь жа часткова застаецца па-за гэтымі дамовамі.

— Калі мы гаворым пра міжнародныя механізмы, то беларуская праваабарончая супольнасць разам з міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі на сёння задзейнічала ўсе магчымыя механізмы, якія ёсць — пачынаючы ад ААН і заканчваючы АБСЕ. Трэба сказаць, што Беларусь яшчэ — па-за еўрапейскай сістэмай абароны правоў чалавека, мы не чальцы Рады Еўропы, не ратыфікавалі Еўрапейскую канвенцыю аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод. Адпаведна, Страсбургскі суд — Еўрапейскі суд па правах чалавека — гэта не пра беларусаў. І гэта, канечне, вельмі шкада.

У ААН быў зварот ад ахвяраў катаванняў, які мы рыхтавалі ў Камітэт супраць катаванняў у межах працэдур Канвенцыі супраць катаванняў. Калі яны насілі масавы характар, то Камітэт праводзіць сваё расследаванне, але яно не публічнае, яно вельмі доўгае, і праблема ў тым, што ўсё гэта робіцца ў камунікацыі з урадам, урад краіны павінен быць уключаны ў гэты працэс. Але калі ўрад не хоча публікавання гэтага дакладу, то ён не будзе апублікаваны.

Была працэдура Універсальнага перыядычнага агляду па правах чалавека ААН. Першапачаткова гэты агляд павінен быў прадстаўляцца ўвесну 2020 года, але з-за пандэміі яго перасунулі на восень. Беларускія праваабарончыя арганізацыі выкарысталі гэты момант максімальна і грунтоўна абнавілі сваю справаздачу, якую дасылалі яшчэ ў мінулым годзе. Сітуацыя моцна змянілася за гэты час, прыйшлося рабіць маштабныя ўдакладненні і прасоўваць тэрміновыя рэкамендацыі: вызваленне палітвязняў, спыненне гвалту, расследаванне катаванняў і гэтак далей. Мы самі прымалі непасрэдны ўдзел — праз відэазвароты, і шмат тых рэкамендацый, якія мы рыхтавалі, агучваліся дэлегацыямі Камітэта па правах чалавека ААН.

Але зноўку: працэдуры мяккія. Цяпер урад павінен разгледзець гэтыя рэкамендацыі і выкласці сваю пазіцыю па іх. Улады могуць прыняць некаторыя рэкамендацыі, а некаторыя адхіліць, прычым без тлумачэнняў і матывацыі. Я думаю, што зноў будуць прынятыя нейкія абстрактныя рэкамендацыі, а крытычна важныя для нас — адхіленыя.

Яшчэ дамагліся слуханняў у Камітэце па правах чалавека ААН. Гэта адбывалася ўпершыню — прынамсі, у дачыненні да Беларусі. Была прынятая рэзалюцыя, Вярхоўны камісар па правах чалавека ААН упаўнаважаны рыхтаваць справаздачу на тэму сітуацыі правоў чалавека ў Беларусі. Нядаўна зноўку былі слуханні ў развіццё гэтай рэзалюцыі.

АБСЕ — актыўна працавалі па запуску Маскоўскага механізму, памятаючы папярэдні досвед 2010—2011 гадоў. Маскоўскі механізм дазваляе групе з дзесяці ці больш дзяржаў-удзельніц стварыць місію незалежных экспертаў для вывучэння асабліва сур'ёзнай пагрозы выкананню абавязацельстваў у сферы правоў чалавека ў адной з дзяржаў-удзельніц. Місія экспертаў рыхтуе справаздачу з рэкамендацыямі і парадамі для Рэспублікі Беларусь, АБСЕ і міжнароднай супольнасці па магчымых рашэннях узнятых пытанняў.

Маскоўскі механізм быў запушчаны, скончыўся вялікім дакладам, дзе зроблена багата рэкамендацый, і сярод іх — рэкамендацыя міжнароднага расследавання таго, што адбывалася ў Беларусі. А цяпер, паколькі гэты даклад быў прыняты, ужо на яго грунце адбываецца шмат розных дыскусіяў Еўрапарламента, Еўрасаюза, АБСЕ, ПАСЕ — што рабіць, якім чынам уплываць на крызіс і якія механізмы можна скарыстаць для міжнароднага расследавання.

І вось тут узнікае праблема, таму што такіх механізмаў асабліва не назіраецца. Беларусь не прызнае кампетэнцыю міжнароднага крымінальнага трыбунала і не ратыфікавала Рымскі статут міжнароднага крымінальнага суда. І малаверагодна, што сітуацыя можа развязацца ў межах нейкага трыбунала.

Цяпер актыўна абмяркоўваецца магчымасць выкарыстання механізму ўніверсальнай юрысдыкцыі — калі краіны ЕС, якія практыкуюць гэтую юрысдыкцыю, могуць узбуджаць справы па фактах катаванняў незалежна ад таго, дзе былі здзейсненыя гэтыя злачынствы, і ў дачыненні да неграмадзян сваіх краін. У Літве ўжо ёсць першы прэтэндэнт, гэта ўладальнік кветкавай крамы, якога катавалі. Мне гэта падаецца найбольш перспектыўным кірункам развіцця падзей.

Таксама стварэнне нейкага калі не трыбунала, дык можа быць даследчага цэнтра з прыцягненнем экспертаў, якія маюць досвед у расследаванні катаванняў, якасная апрацоўка фактычнага матэрыялу з магчымасцю выкарыстання гэтай інфармацыі ў мэтах пераследу ўжо ў межах універсальнай юрысдыкцыі нейкімі канкрэтнымі краінамі альбо ў будучым. Каб яны сталі доказнай базай на будучыню. Гэта тое, што зараз актыўна абмяркоўваецца на міжнародным узроўні.

Атрымліваецца, што ў міжнародных структур і так званага калектыўнага Захаду вельмі мала інструментаў, каб паўплываць на сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Рэальна на яе адрэагаваць могуць альбо асобныя краіны ў межах універсальнай юрысдыкцыі, альбо — толькі ўвядзеннем санкцый. Зыходзячы са ступені парушэнняў правоў чалавека і немагчымасці абараніць людзей у нацыянальных судах, падаецца, што ўжо прынятых санкцый відавочна недастаткова. І нават тыя эканамічныя санкцыі, пра якія пакуль што толькі ідзе размова — не вельмі прапарцыйны інструмент рэагавання на дзеянні беларускіх уладаў.

### Рэпрэсіі — толькі вынік з прычыны

У той жа час Стэфановіч адзначае, што, разважаючы пра сённяшнюю, сапраўды драматычную сітуацыю, мы пачалі пакідаць за кадрам яе вытокі. А між тым прычына гэтай сітуацыі — таксама велізарная праблема.

— Палітычны крызіс, крызіс з правамі чалавека, — гэта вынік таго, што ў краіне не засталося інструментаў не толькі для абароны правоў чалавека, але нават інструментаў, якія б гарантавалі ўдзел грамадзянаў у кіраванні сваёй краінай. Прэзідэнцкія выбары і іх вынікі прадэманстравалі поўную дэвальвацыю выбарчай сістэмы. Гэта была ўвогуле дэманстрацыя дна: калі пратаколы былі не проста сфальсіфікаваныя, іх нават не вывешвалі, людзям не абвясцілі вынікі, а выбарчыя камісіі ўцякалі ад людзей пад аховай АМАПу.

Відавочна, што ў такой сістэме немагчыма не тое што праводзіць выбары, але і казаць пра іх увогуле.

Нам трэба шукаць выйсце, бо рэжым бачыць выйсце адно — захаваць уладу для Лукашэнкі. Любым шляхам. У іх адзіная магчымасць — рэпрэсіі, рэпрэсіі і яшчэ раз рэпрэсіі.




І гэта вельмі сур'ёзны крызіс і сур'ёзны выклік. Нашую сітуацыю можна параўнаць з сітуацыяй барацьбы з камуністычнымі рэжымамі ў 1980-х гадах у Польшчы ці Чэхаславакіі. І як гэта ўсё будзе вырашацца ў нас — вельмі складана сказаць.

Міжнародная супольнасць і міжнародныя інстытуты, канечне, могуць часткова паўплываць на сітуацыю ў Беларусі, але варта памятаць, што толькі ад нас залежыць, у якой краіне мы будзем жыць. Ці будзе Беларусь дэмакратычнай і прававой дзяржавай, залежыць сёння ад кожнага з нас.

# «Людзі падалі, таму што нас білі і больш

**Сяргей Шыбека пасля Акрэсціна сышоў на бальнічны, а яго звольнілі за прагулы, піша «Салідарнасць».**

— Наш рыцарскі клуб проста выкінулі з цэнтра пасля дваццаці гадоў працы, — перажывае кіраўнік клуба «Дзікае паляванне» Сяргей Шыбека.

20 гадоў ён узначальваў адно з самых відовішчных аб'яднанняў Мінскага палаца дзяцей і моладзі «Золак». Аднак у лістападзе кіраўніцтва звольніла выкладчыка і запатрабавала вызваліць памяшканне клуба ад інвентару і даспехаў.

Прычынай такіх паводзін дзяржустановы стала грамадзянская пазіцыя педагога.



Фота з асабістага архіва Сяргея Шыбекі

### «Увесь час на Акрэсціна ў мяне была толькі адна думка: "Вытрымаць, пераждаць!"»

— 9 жніўня я, як многія, адчуў сябе падманутым і пайшоў вечарам у цэнтр. Але затрымалі мяне 12 жніўня ў сваім раёне Уручча. Там у гэтыя дні былі масавыя акцыі пратэсту каля ГЦ «Спектр».

Як і ўсіх, пры затрыманні білі, але мне дасталася менш. Больш за ўсё збівалі тых, у каго знаходзілі нешта: сцягі ці, напрыклад, газавы балончык. У мяне з сабой нічога не было, акрамя ключоў і тэлефона.

— Я яшчэ сказаў: «Біце, я звыкся». Яны ўдарылі пару разоў, а потым чамусьці ім стала нецікава, можа, таму што я не вельмі баяўся. Я сапраўды прывык да фізічнага болю, пасля кожнага турніру ў мяне сінякоў бывала і больш, — прызнаецца Сяргей, успамінаючы сваё затрыманне.

Ён распавёў, як абыходзіліся з людзьмі на Акрэсціна, што дапамагло пратрымацца там больш за суткі яму самому і не зламацца маральна.

— Сілавікі нас пастаянна абражалі і прыніжалі, у дзяўчат пыталіся: «Колькі твой атрымлівае?» і выхваляліся, што яны вельмі шмат зарабляюць. Калі білі, прыгаворвалі: «Хацелі свабоды? Вось вам перамены і свабода!»

У Першамайскім РУУС, куды мяне прывезлі, нас спачатку трымалі ў спартзале, падлога там была ў крыві. Ноч мы правялі ў неправетраных камерах. Некаторыя ад недахопу паветра страцілі прытомнасць. Былі нармальныя супрацоўнікі, якія, адводзячы кагосьці ў прыбіральню, спецыяльна нейкі час прытрымлівалі дзверы, каб нам трапіла хоць крыху паветра.

Раніцай нас пагрузілі ў аўтазакі, як селядцоў, адзін на аднаго. Мы паспрабавалі спытаць, куды нас вязуць. У адказ пажартавалі: «У лес».

На Акрэсціна на працягу ўсяго часу нас трымалі толькі ў трох позах: на каленях — галава ў падлогу, рукі за галаву, стоячы тварам да сцяны або лежачы на зямлі, рукі за галаву. Шмат гадзін стаялі на каленях, а тварам да сцяны наогул гадзін 14!

Знаходзіцца доўгі час у статычнай позе вельмі складана. У мяне праблемы з хрыбетнікам да гэтага часу.

Людзі падалі, таму што нас білі і больш за суткі не кармілі і не давалі вады. Побач са мной стаялі хлопцы, якіх там мучылі ўжо другія і трэція суткі.

Калі бачылі, што хтосьці пачынае спаўзаць па сцяне, тыя, хто стаяў побач, імкнуліся падхапіць і паспрабаваць паставіць, інакш вярталіся ахоўнікі і збівалі.

Да медыкаў пускалі толькі тых, каму было зусім дрэнна, аднак пасля, каго не везлі на «хуткай», вярталі ў строй.

Я стараўся адключыцца, хоць на пару хвілін, хоць на 20 секунд, заплюшчваў вочы і спрабаваў заснуць і, калі атрымлівалася, радаваўся, што перажыў яшчэ пару хвілін. На працягу ўсяго часу ў мяне ў галаве была толькі адна думка: «Вытрымаць, пераждаць!»

Суд быў вельмі хуткі, зачыталі аднолькавыя на ўсіх абвінавачанні пра ўдзел у акцыі і лозунгі і зноў вывелі ў двор тварам да сцяны. Але тэрміны давалі розныя — ад 5 да 15 сутак. Мне далі пяць. Пасля суда ненадоўга патрапілі ў камеру — сыры каменны мяшок, якому мы вельмі ўзрадаваліся, таму што можна было зрабіць пару крокаў або прысесці.

14 жніўня ноччу, калі мы зноў стаялі тварам да сцяны на Акрэсціна, пайшла чутка, што будуць выпускаць. Здалося, што прыехаў хтосьці з начальства. Нас завялі ў нейкую камеру, дзе была ежа, мы хутка паелі, і нас адправілі на выхад.

### Картку з паліклінікі забраў Следчы камітэт

— Я паспрабаваў удакладніць, дзе мае рэчы. Адказалі: «Валіце ўжо, потым забярэце! Ці назад хочаце?» Дарэчы, пазней, як і многія, стаяў у чарзе па паўдня, але нават з валанцёрамі не знайшоў свой тэлефон. Напісаў заяву аб знікненні рэчаў, але мне прыйшоў адказ, што разбірацца не будуць.

Той ноччу мы ішлі да выхаду і не маглі паверыць у тое, што нас адпусцяць. Я ўжо сабраўся аддаць майку дзецюку, у якога свая была ўся парваная і ў крыві. Грошай, вядома, ні ў каго не было. Але, калі шчыра, дадому ва Уручча я гатовы быў ісці пешшу.

А калі выйшлі, проста афігелі! Вакол было шмат людзей і ўсе нешта прапаноўвалі. Я папрасіў цыгарэту, потым нейкі хлопец адвёз мяне дадому — распавёў Сяргей пра самыя страшныя суткі ў сваім жыцці.

Пасля іх яму ўжо двойчы даводзілася браць бальнічны ў сувязі з моцнымі болямі ў спіне. На наступны дзень пасля вяртання яго траўмы зафіксавалі лекары ў паліклініцы.

— Я тады і падумаць не мог, што ўсё трэба здымаць на фота і відэа. Мне было дастаткова таго, што ў картцы адзначылі ўсе ўдары, ранкі, траўмы, — дзеліцца Сяргей.

Не мог ён выказаць здагадку і пра тое, што яго картка будзе

# Рабочы, якому прастрэлілі руку

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Маё жыццё падзялілася на "да" і "пасля", калі б куля змяніла траекторыю — я мог бы быць перад Тарайкоўскім», — гаворыць Аляксандр Ласіца, узгадваючы падзеі, якія адбыліся з ім у жніўні гэтага года.**

### Акрэсціна. «Дайце мне коўдру і памерці»

Яго гісторыю мы ўжо распавядалі: увечары 10 жніўня ён пачуў, што на вуліцы беспрапынна гудуць машыны, выйшаў паглядзець, што адбываецца, прайшоў у бок Пушкінскай — і атрымаў агнястрэльнае раненне ў руку.

— Я павярнуўся — і як Аляксандр Тарайкоўскі (а мяне падстрэлілі незадоўга да яго) — узняў рукі ўгару, і мне прыляцела святлашумавая ў вуха. Мяне нахіліла ў правы бок, і тут нешта пасыпалася, у ногі пазляталі аскепкі. Адкуль і як прыляцела куля — мне незразумела, было адчуванне, нібы ток пайшоў. Дзякуй натоўпу — мяне атачылі і давялі да прыпынка. Пасадзілі на асфальт, апрацавалі рану, выцягнулі кулю, яна была з двухрублёвую манету ў дыяметры. Перабінтавалі руку, выклікалі «хуткую», забралі ў дзявятую бальніцу, апрацавалі і адпусцілі, — успамінае Аляксандр.

На наступны дзень ён адкрыў бальнічны, а ўвечары выйшаў у аптэку купіць лекі. Дайшоў да Пушкінскай, дзе ўсё ўжо было ачэплена сілавікамі, па дарозе знайшоў нечы белы бранзалет, падабраў і нёс у руцэ.

— Я толькі падыйшоў, павітаўся, а ў мяне вырвалі гэты бранзалет і сказалі: «Наш кліент». Я не супраціўляўся, але далей ужо не пайшоў, а паляцеў. Кажу: прабачце, можа, вы мяне адпусціце, і я пайду, куды ішоў? Але было ўжо позна.

Так Аляксандр спачатку трапіў у РУУС Цэнтральнага раёна, дзе давялося шмат гадзін стаяць у двары, а адтуль — на Акрэсціна. Узгадвае, як вязняў у 6 раніцы прымушалі спяваць дзяржаўны гімн. Суразмоўца адмовіўся — за гэта яго збівалі. Ён чуў, як градам сыпаліся ўдары на іншых людзей, як некаторых зняволеных прымушалі крычаць «Я люблю АМАП», як вязняў фарбавалі балончыкам і стрыглі валасы.

— Не забуду твар аднаго хлопца. Ён ляжаў у адных шортах, з голым торсам. Ён то сядаў, то зноў адкідваўся на траву і казаў: «Дайце мне, калі ласка, коўдру, і дайце мне памерці». Ён увесь быў фіялетавы, яго звезла «хуткая».

У ізалятары Аляксандру прысудзілі 14 сутак, з якіх ён адседзеў трое, пасля чаго яго адвезлі ў шпіталь у Бараўляны — ратаваць прастрэленую руку. Скаргу на пастанову суда Аляксандр падаў, але абскарджанне адбылося без яго прысутнасці, а судовае рашэнне яму так і не даслалі. Таму Аляксандр не ведае, ці засталіся на ім яшчэ недаседжаныя суткі. Праз два месяцы пасля тых падзей да Аляксандра па месцы рэгістрацыі, у Гомелі, прыходзіла міліцыя, але, пагрукаўшыся ў зачыненыя дзверы і пагутарыўшы з суседзямі, міліцыянты сышлі. Аляксандр не ведае, што ад яго хацелі прадстаўнікі ўнутраных органаў, але ставіцца да такіх візітаў з насцярожанасцю:

— Мяне яшчэ Следчы камітэт не апытаў па жнівеньскіх падзеях. Прызначалі сустрэчу, я прыязджаю — і мне кажуць: пачакайце, давайце заўтра. Прыязджаеш заўтра — зноў няма часу. Месяц, два — ніхто не чапае. А потым — тэлефануюць з Гомеля, з Цэнтральнага РАУСа.



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева, НЧ

**Я не хачу, каб Беларусь увайшла ў склад Расіі, я хачу, каб мы заставаліся незалежнай дзяржавай, але пры іншым прэзідэнце і дзяржапараце. Я хачу, каб у нас было права выбару, хачу звярнуцца куды-небудзь — і каб мой голас быў пачуты**

### Калі б куля закранула артэрыю — маглі б не выратаваць

Прайшло ўжо чатыры месяцы з дня ранення, а Аляксандр яшчэ не акрыяў: пасля разрыву святлашумавой гранаты адно вуха перастала чуць, і слых не аднавіўся дагэтуль. Праблемы ёсць і ў прастрэленай руцэ: у далоні Аляксандр пастаянна адчувае пакалванні, падобныя на ток, а два тыдні таму частку далоні ўвогуле адняло, не мог сагнуць пальцы.

— Правяралі нервы — сказалі, усё нармальна. У Мінску, відаць, разбіраюцца дактары. А ў Гомелі ў медцэнтры мне сказалі: «Вы, напэўна, сімулянт». А яно мне трэба — бегаць па клініках, правярацца?

На бальнічным ён прабыў 39 дзён.

Суразмоўца прызнаецца: цяпер часта задумваецца і

# за суткі не кармілі і не давалі вады»

прадстаўляць цікавасць яшчэ для кагосьці. Аднак пазней яе забраў Следчы камітэт.

— Мне патэлефанавалі і папрасілі прыйсці, каб абмеркаваць тое, што там напісана. Але я не пайшоў, хоць і ведаю, што там напісана праўда, — кажа Сяргей.

У пачатку навучальнага года ён прыйшоў на працу і сустрэў у калектыве шмат аднадумцаў.

— Мы, педагогі, нават хацелі вынесці пытанні адносна таго, што адбываецца, на педсавет, але нам катэгарычна забаранілі, сказалі, што «Золак» па-за палітыкай. І тады мы, каля 20 чалавек, запісалі відэазварот, у якім выказалі сваё меркаванне.

— Пасля гэтага на ўсіх пачаўся ціск кіраўніцтва. Нас выклікалі ва ўпраўленне па адукацыі Мінгарвыканкама. Чыноўнікі абураліся нашым учынкам і казалі: «Вы што, хочаце як ва Украіне?»

Кіраўніцтва палаца ў нашым чаце стала экстрана шукаць жадаючых, каб запісаць зварот у падтрымку ўладаў. Але, мабыць, не знайшло, таму што зварот так і не з'явіўся.

Дырэктар і намеснікі правodзілі гутаркі з кожным з нас. Асабіста мне дырэктар заявіў, што выбары выйграў Лукашэнка і ніяк інакш, а ідэолагі нагадалі, што «намі маніпулююць, мы не прадстаўнікі народа, і педагогі ва ўстанове дзяржаўнага ўзору павінны падтрымліваць ідэалогію дзяржавы», — распавядае Сяргей.

У выніку ціску, па яго словах, былі даведзены да звальнення або зволненыя ўжо чацвёра з удзельнікаў відэазвароту.

— Мяне ўпершыню за амаль дваццаць гадоў сталі падлоўліваць на невыкананні графіка працы. А спецыфіка клуба такая, што мы можам знаходзіцца ў ім суткамі, напрыклад перад выступам, а ў іншы час можам перанесці заняткі для зручнасці, вядома, узгаднішы з кіраўніцтвам. І праблем з гэтай нагоды ніколі не было, таму што мы прадстаўлялі палац на ўсіх мерапрыемствах, бралі прызавыя месцы.

Афіцыйна ўдзельнікамі клуба маглі лічыцца толькі падлеткі з 14 гадоў, але мы дазвалялі ў якасці азнаямлення прыходзіць малодшым хлопцам, і яны з задавальненнем ішлі. Выпускнікі часта заходзілі, таму што гэта хобі на ўсё жыццё, — распавядае кіраўнік пра тых, каго аб'ядноўвае клуб.

У яго графіку знайшлі нестыкоўкі і прапанавалі альбо звольніцца самому, альбо «па артыкуле».

— Я сказаў, што сам не буду звальняцца, таму што не бачу прычын. На пропускі, да якіх прычапіліся, я напісаў тлумачальныя, прад'явіў бальнічныя, таму што пасля Акрэсціна мучыўся са спінай. Але мяне звольнілі за прагулы, — дзеліцца суразмоўца.



Фота www.russianheadlines.com

**Людзі падалі, таму што нас білі і больш за суткі не кармілі і не давалі вады. Побач са мной стаялі хлопцы, якіх там мучылі ўжо другія і трэція суткі. Да медыкаў пускалі толькі тых, каму было зусім дрэнна, аднак пасля, каго не везлі на «хуткай», вярталі ў строй**

Ён прызнаецца, што пра сябе магчымасці падумаць яшчэ не было, а вось пра лёс клуба вельмі перажывае.

— Гэта справа ўсяго жыцця, вельмі шкада дзяцей і ўсіх, хто любіць наш клуб і ўклаў у яго шмат сіл. Мы цалкам зрабілі рамонт у зале, дзе займаліся, і абсталявалі ўсім неабходным. Усё за свой кошт. Палац нам вылучыў голыя сцены. Мы навялі такую прыгажосць!

Я з усіх сіл спрабаваў захаваць клуб, каб у дзяцей была магчымасць працягнуць трэніравацца, прадставіў кіраўніцтву на сваё месца трох кандыдатаў з профільнай адукацыяй. Дырэктар правёў гутарку з кожным, але не ўзяў нікога і хацеў закрыць клуб, — перажывае Сяргей.

Абсталяванне залы давялося дэмантаваць, частку даспехаў забралі дадому члены клуба, частку дазволілі пакінуць на захоўванне ў музейным комплексе «Дудуткі». Там жа хлопцам прапанавалі трэніравацца, але гэта прыгарад і дабірацца туды складана. Цяпер Сяргей вядзе перамовы з іншымі рыцарскімі клубамі аб тым, каб яго дзеці працягнулі займацца і не гублялі навыкі.

— Я вельмі хачу, каб нам паспрыялі ў пошуку новага месца ў межах горада, — спадзяецца Сяргей.

**Пераклад «НЧ»**

# 10 жніўня, зведаў новыя рэпрэсіі



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева, НЧ

дзякуе Богу за тое, што куля трапіла менавіта ў руку, а не ў шыю ці ў сэрца, як Аляксандру Тарайкоўскаму. «Бо перад Тарайкоўскім мог быць я», — гаворыць ён.

— Дактары на Сямашкі (9 бальніца, куды даставілі Аляксандра пасля ранення. — «НЧ») казалі, што мне пашанцавала, бо куля прайшла каля артэры. Калі б яна закранула артэрыю, то "хуткая" не паспела б прыехаць мяне выратаваць, альбо я застаўся б інвалідам.

Частку выдаткаў на лячэнне Аляксандру дапамаглі кампенсаваць валанцёры. Таксама ён аформіў страхоўку — ён робіць гэта штогод.

— Сядзельцы на Акрэсціна мне кажуць: «Ты, напэўна, як адчуваў!» — смяецца суразмоўца.

### «Я не ведаю, як павядзе сябе дзяржава»

Як пацярпелы Аляксандр атрымаў дапамогу ад фонда By_help. Але калі дзяржава спісала сродкі, пералічаныя яму ў якасці дапамогі, і ўвагнала ў мінус яго рахунак, стала не да смеху.

— Я вам шчыра скажу: да жніўня месяца мяне не было ні ў «Інстаграме», ні ў «Тэлеграме» — я ўвогуле гэтым не цікавіўся, толькі адзін «УКантакце» быў. Пасля гэтага ўсяго зарэгістраваўся і там, і там. Цяпер манітору ўсе навіны, што адбываецца ў нашай краіне, памяняецца ў нас нешта ці не. Але, мяркуючы па тым, як беларусы выходзяць, мне здаецца, усё ж нешта будзе.

Аляксандр распавядае, што яшчэ ў 2010 годзе пасля прэзідэнцкіх выбараў ён не разумеў, чаму людзі выходзілі на пратэсты. Зразумеў толькі, калі сам трапіў «пад раздачу».

— Каб не было дзяцей, я б, можа, кожны дзень выходзіў бы на пікеты. Але мяне спыняе тое, што я не ведаю, як павядзе сябе дзяржава. Мала таго, што яны заблакавалі мой рахунак, загнаўшы ў мінус на 2300 рублёў, і забралі 500 рублёў, якія былі на рахунку, то — што тут казаць — яны могуць і жыллё адабраць, — разважае Аляксандр.

Ён працуе на дзяржаўным прадпрыемстве. На працы яго сустрэлі як героя — пацярпеў за свабоду. Але не так даўно Аляксандру патэлефанаваў начальнік участка і сказаў, што ім цікавіліся следчыя органы, прыходзілі на працу і запытваліся, якія спагнанні выкананыя ў дачыненні да Аляксандра і яшчэ аднаго калегі, што ўдзельнічаў у пратэстах у Барысаве. На прадпрыемстве разгубіліся: якія могуць быць спагнанні, калі чалавек добра характарызуецца і мае адзін з самых вялікіх стажаў? Але тым не менш магчымае звальненне вельмі непакоіць Аляксандра: ён любіць сваю працу, да таго ж не хоча застацца без сродкаў да існавання.

### «Усё памяняецца»

Пасля ўсяго, што адбылося, у Аляксандра моцна памяняўся светапогляд, ён стаў зусім па-іншаму глядзець на палітыку, «убачыў сапраўдны твар нашай міліцыі». Што абурае, што ва ўладзе сядзяць не людзі, якіх абраў народ, а прызначэнцы. І народу гэта ўсё надакучыла, таму пачаліся пратэсты.

— Мы «праглынулі» гэтыя выбары — што далей? Праз пяць гадоў — зноў тое ж самае, 80% за яго «прагаласуюць»? Хочацца лепшай долі для сваіх дзяцей. У той жа Польшчы людзі працуюць і атрымліваюць годную аплату за сваю працу. А тут — гарбацішся і атрымліваеш капейкі, а камуналка расце, прадукты даражэюць у крамах.

Таму суразмоўца не хавае, што ў яго былі думкі аб тым, каб з'ехаць з Беларусі, але жонка пакуль што супраць. Ехаць ёсць куды: Аляксандр напалову латыш, у яго ёсць сваякі ў Рызе, у Літве. Але калі з'язджаць — то толькі на час, каб потым вярнуцца ў вольную краіну. Ён перакананы, што ў Беларусі ўсё ж адбудуцца перамены і Лукашэнку давядзецца сысці, а народ больш не захоча працаваць на сілавыя структуры.

Ён разважае наконт таго, якой хацеў бы бачыць будучыню краіны:

— Я не хачу, каб Беларусь увайшла ў склад Расіі, я хачу, каб мы заставаліся незалежнай дзяржавай, але пры іншым прэзідэнце і дзяржапараце. Я хачу, каб у нас было права выбару, хачу звярнуцца куды-небудзь — і каб мой голас быў пачуты.

У той жа час Аляксандр не верыць, што сыход Лукашэнкі будзе спакойным пасля ўсяго, што адбылося цягам 26 гадоў яго кіравання.

— Тое, што ён здзейсніў яшчэ ў 1990-х гадах, калі зніклі Захаранка, Ганчар і іншыя, — калі нават, як казала Ціханоўская, яму дадуць магчымасць спакойна сысці, — я ў гэта не веру. Бо на яго пачнецца паляванне. Шкада яго дзяцей і ўнукаў, ён зламаў жыццё свайму Колю. Сёння бачыў здымак новага прэзідэнта Малдовы: ідзе на працу пешшу, пад парасонам, у масцы, без аховы. Чаму ў нас не так, чаму прэзідэнт баіцца свайго ж народа? — прыводзіць параўнанне суразмоўца.

Цяпер ён хоча толькі аднаго: каб увесь гэты жах, які цяпер адбываецца ў Беларусі, скончыўся і рэпрэсіі спыніліся. Хочацца жыць спакойна.

— Я ўпэўнены ў добрай будучыні. Усё памяняецца, — перакананы Аляксандр Ласіца.



# Новыя прыгоды Хуана Гуайдо

Алег НОВІКАЎ

**Парламенцкія выбары ў Венесуэле, што адбыліся 6 снежня, без сумневаў паўплываюць на будучыню Хуана Гуайдо, які абвясціў сябе легітымным прэзідэнтам краіны.**

Не так даўно адзін вядомы беларускі палітык параўнаў Святлану Ціханоўскую з лідарам венесуэльскай апазіцыі Хуанам Гуайдо. Відавочна, падставай для такога параўнання сталі рэзалюцыі еўрапейскіх парламентаў, якія аддалі перамогу на выбарах Ціханоўскай.

На самай справе параўнанне не вельмі карэктнае. Хаця б таму, што ў Гуайдо іншы палітычны бэкграўнд і іншы маршрут у вялікую палітыку. У 2017 годзе ён быў абраны дэпутатам Нацыянальнай асамблеі, які з часам быў разагнаны Нікаласам Мадурам. У якасці эрзацу Мадура прапанаваў венесуэльцам Нацыянальную канстытуцыйную асамблею, дзе ўсе мандаты належаць праўладным арганізацыям.

Нейкі час дзве структуры існавалі ў паралельным свеце. Пакуль у студзені 2019 года палітычны крызіс у Венесуэле не перайшоў у больш вострую стадыю. Апазіцыя, як і чакалася, адмовілася прызнаць пераабранне Мадуры на пасаду прэзідэнта. А вось тое, што адбылося пасля, стала сюрпрызам. Паколькі, як сцвярджала апазіцыя, прэзідэнцкая пасада аказалася вакантнай, уся ўлада, паводле Канстытуцыі, павінна была перайсці да спікера Нацыянальнай асамблеі. Напярэдадні ім быў абраны той самы Хуан Гуайдо, які адразу абвясціў сябе выконваючым абавязкі прэзідэнта.

Хутчэй за ўсё, такі крок каардынаваўся з амерыканцамі. Інакш літаральна праз некалькі гадзін пасля дэмаршу Гуайдо Дональд Трамп не даслаў бы яму афіцыйнае паведамленне з прывітаннем. У наступныя дні больш за 50 краін свету таксама прызналі Гуайдо законным лідарам Венесуэлы.

Нягледзячы на беспрэцэдэнтны дыпламатычны ціск і моцную хвалю антыўрадавых вулічных маніфестацый, рэжым Мадуры ўсё ж утрымаўся. Асноўнымі чыннікамі захавання статус-кво стала лаяльнасць сілавікоў і рэцыдыў калектыўнага антыамерыканізму, уласцівы шмат якім народам Лацінскай Амерыкі. Яго ўскосна ўзмацняў і факт, што Трамп нашпігаваў венесуэльскі кірунак ветэранамі часоў Рэйгана, якія запомніліся ўдзелам у барацьбе з герыльерас. Так ці інакш, франтальная атака на сістэму правалілася.

Пасля гэтага супрацьстаянне ўлады і апазіцыі набыло рысы нейкай камедыі-буф. Нягледзячы на шматлікія папярэджанні, Гуайдо застаўся на волі. Спецслужбы яго затрымалі толькі аднойчы — каб адпусціць праз 45 хвілін. Ён спакойна пакідаў краіну і вяртаўся назад пасля дыпламатычных сустрэч. Унутры краіны дзейнасць часовага прэзідэнта была сфакусаваная на распрацоўках рознага кшталту планаў мірнага пераходу да дэмакратыі, які рэжым упарта ігнараваў.

Як бачым, хутчэй гэта была мімікрыя актыўнай дзяржаўнай дзейнасці. Адсутнасць дынамікі заканамерна выклікала спрэчкі ўнутры апазіцыі. У студзені 2020 года на пасаду спікера Нацыянальнай асамблеі быў абраны іншы апазіцыйны актывіст — Луіс Пара. Цяпер, па логіцы, яму пераходзіў тытул часовага прэзідэнта. Гуайдо з гэтым не пагадзіўся, назваўшы Пара «здраднікам нацыі».

Пакуль апазіцыя вызначала, хто з іх «здраднік», наблізіўся час заканчэння кадэнцыі абранага ў 2017 годзе парламента. Па розных прычынах апазіцыя вырашыла адмовіцца ад удзелу ў кампаніі. Замест гэтага за тыдзень да галасавання стартаваў арганізаваны ёй самапальны плебісцыт, у якім венесуэльцам прапанавана прагаласаваць за заканчэнне «ўзурпацыі прэзідэнта Мадуры».

Пра вынікі таго рэферэндуму прэса нічога не піша. А вось вынікі галасавання на выбарах у новы склад Асамблеі вядомыя. Аб'яднаная сацыялістычная партыя Венесуэлы і саюзныя ёй структуры атрымалі 67% месцаў. Нельга прайсці міма таго пікантнага факту, што ў новым парламенце будуць таксама сын і жонка Мадуры.

Праўда, яўка склала ўсяго 31% з 20 мільёнаў зарэгістраваных выбаршчыкаў. Гэтая акалічнасць, а таксама адсутнасць на выбарах сапраўднай альтэрнатывы дазволіла крытыкам Мадуры назваць тое, што адбывалася, «выбарчым фарсам».

Зрэшты, па суседстве з ваяўнічымі ацэнкамі можна знайсці і больш асцярожныя. «Сумнеўныя выбары ў нядзелю перарываюць сувязь Гуайдо з заканадаўчым органам, што быў асновай яго прэтэнзій на прэзідэнцкую пасаду. Гэта дазваляе зрабіць паўзу і пераасэнсаваць, як змагацца з урадам дзяржавы, якая цяпер з'яўляецца зонай гуманітарнай катастрофы і якой кіруе жорсткая кліка», — піша амерыканскі Bloomberg. Washington Post у сваім каментары намагаецца знайсці адказ на пытанне: як апазіцыя не здолела перамагчы ў краіне, дзе пануе жудасны эканамічны крызіс, праз які пяць мільёнаў чалавек ужо збегла за мяжу? На думку выдання, будучыня новай, сапраўднай апазіцыі звязаная з тымі людзьмі, якія сталі ахвярамі рэжыму.

Не менш інтрыгоўнай сітуацыя выглядае праз прызму прыходу ў Белы Дом дэмакратаў, якія дабіваліся дэмакратызацыі кантынента праз дыялог. Дастаткова ўзгадаць гістарычны візіт Абамы на Кубу. Ці будзе падобныя тактыка ўжывацца адносна Каракаса, або Байдэн застанецца прыхільнікам цяперашняй жорсткай лініі?

Сюжэт набывае яшчэ большую інтрыгу праз прысутнасць на рэгіянальнай сцэне бразільскага прэзідэнта Балсанару. Бразілец у прыступе любові на адрас свайго куміра Трампа публічна абвінаваціў штаб Джо Байдэна ў фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў, што, напэўна, будзе мець наступствы.

І, натуральна, незразумела, якую партыю згуляе ва ўсіх гэтых камбінацыях праект Хуана Гуайдо, які наўрад ці так проста пакіне сцэну?

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Пра што канкрэтна Лукашэнка дамовіўся з Пуціным? Пра тое, што ён больш не будзе супраціўляцца ідэі агульнай для Расіі і Беларусі Канстытуцыі? У такім разе дні Лукашэнкі злічаныя. І што мы, астатні свет, можам з гэтым зрабіць? Ды практычна нічога. Простая канфрантацыя з Масквой па гэтым пытанні небяспечная. У Пуціна алергія на патэнцыйныя новыя «каляровыя рэвалюцыі», такія як у Грузіі і ва Украіне. Дый насельніцтва Беларусі ў цэлым, відавочна, гэтага не хоча. Таму лепшае, што можна зрабіць, — гэта яшчэ больш падтрымліваць дэмакратычны працэс у краіне і за яе межамі. Гэта забяспечыць дэмакратычным сілам у Беларусі больш магчымасцяў зразумець, чаго менавіта яны хочуць і як лепш гэтага дасягнуць».

**Berlingske (Данія)**

«Беларускія пратэсты маюць яскравы хрысціянскі складнік. Менавіта хрысціянскі — без канфесійнага снабізму. У адстойванні праўды і чалавечай годнасці хрысціяне Беларусі знайшлі запаветны філасофскі камень экуменічнага дыялогу (пра які шмат кажуць, але мала шукаюць) — тое, што аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае народ Хрыстовы. І гэта — вы здзівіцеся, — аказваюцца евангельскія каштоўнасці без прыкрас. Беларускі паход за справядлівасць уваскрашае рамантычныя мары аб хрысціянскай дэмакратыі, пра магчымасць прышчапіць яе на наш ідэалагічна знясілены постсавецкі грунт».

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

«Прыняўшы рашэнне запрасіць Ціханоўскую на інаўгурацыю, Байдэн ясна паказвае, што ён, у адрозненне ад адміністрацыі Трампа, будзе сур'ёзна ставіцца да парушэнняў грамадзянскіх правоў і правоў чалавека за мяжой, і без ваганняў акажа супрацьдзеянне Расіі. Запрашэнне Ціханоўскай таксама кажа, што адміністрацыя Байдэна не стане ігнараваць і падтрымліваць "інтэграцыйныя" планы Масквы, а будзе выступаць за ўмацаванне незалежнасці Беларусі і дэманстраваць Украіне, якая аказалася ў складанай сітуацыі, больш актыўную падтрымку ў параўнанні з адміністрацыяй яго папярэдніка».

**The Hill (ЗША)**

«Яшчэ адзін варыянт — знайсці каго-небудзь, хто на кампрамісных умовах мог бы часова выконваць абавязкі кіраўніка дзяржавы. Гэта павінен быць чалавек, які зможа пераканаць незадаволеную большасць у тым, што Лукашэнка сапраўды пайшоў на пенсію, а ў краіне пачаліся сапраўдныя рэформы. Але 66-гадовы Лукашэнка на пенсію не збіраецца. Замест гэтага ён шукае, як захаваць пазіцыю ля стырна, калі Канстытуцыю сапраўды рэфармуюць».

**Yle (Фінляндыя)**

# Байкатуюць усе!

Алег НОВІКАЎ

**Як вядома, азначэнню «байкот» мы абавязаныя Чарльзу Байкоту — брытанцу, адміністратару фальварка ў Ірландыі. Адмова мясцовых жыхароў у 1880 годзе збіраць ураджай у маёнтку, дзе ён быў кіраўніком (у межах кампаніі абароны правоў працоўных) прывяла да з'яўлення ў англійскай мове дзеяслова to boycott, які перайшоў у іншыя мовы. Тым не менш такія калектыўныя дзеянні, якія можна назваць «байкотам», можна пабачыць значна раней, нават да XVIII стагоддзя.**

Самай славутай акцыяй была, натуральна, кампанія супраць набыцця брытанскіх тавараў у амерыканскіх калоніях Вялікабрытаніі ў знак пратэсту супраць падатковай палітыкі Лондана. Кульмінацыяй байкоту стала «Бостанскае чаяванне» — напад на караблі і тавары Брытанскай Ост-Індскай кампаніі ў порце Бостана 16 снежня 1773 года. У выніку акцыі напружанасць паміж калоніямі і метраполіяй дасягнула настолькі высокага градусу, што праз нейкі час перайшла ў фазу адкрытай вайны, вынікам якой стала абвяшчэнне незалежнасці ЗША.

Падаецца, што тактыка каланістаў спадабалася некаторым брытанцам. Ужо ў 1791 годзе мясцовыя праціўнікі рабства заклікалі брытанцаў адмовіцца ад ужывання цукру з плантацый Заходняй Індыі, дзе актыўна выкарыстоўвалася нявольніцкая праца. Хаця кампанія байкоту зацягнулася аж на тры дзясяткі гадоў, у выніку мэта была дасягнута — у 1820 годзе інстытут рабства ў брытанскіх калоніях быў абвешчаны па-за законам.

Ужо тады адзначаліся цікавыя аспекты такога сродку барацьбы. Аказалася, што адмова ад спажывання нейкага прадукту ўплывае не толькі на пакупніцкую здольнасць, працу або паслугі. Байкот дазваляе мабілізаваць найбольш апалітычныя катэгорыі насельніцтва. Так, поспех «антыцукровай» кампаніі супраць рабства забяспечылі брытанскія кабеты — хатнія гаспадыні, якія з-за маральных перакананняў адмаўляліся ад цукру, што выраблялі рабы.

Акрамя таго, дэманстратыўная адмова ад нейкіх тавараў або паслуг дазваляла выказваць публічны пратэст нават у вельмі нязручных для гэтага ўмовах. Адзін індыйскі актывіст кампаніі байкоту брытанскіх тавараў у 1929 годзе казаў, што байкот «з'яўляецца цудоўным спосабам тут і цяпер прадэманстраваць непрыязнасць да палітычнага апанента».

З часам байкот стаў надзвычай разнастайным — як па формах, так і па мэтах, якія пераследаваліся яго арганізатарамі. Напрыклад, аказалася, што паказаць дулю ўраду можна за кошт адмовы ад кепскай звычкі. Гэта здарылася напрыканцы XIX стагоддзя ў Іране, калі паўстаў рух супраць брытанскай манаполіі на продаж тытуню. Свой унёсак зрабіў і вялікі аятала Мірза Хасан Шыразі, які выпусціў фетву, што паленне раўназначнае вайне супраць імама Махдзі. У шыізме Махдзі адыгрывае ключную ролю, і заклік выклікаў эфект бомбы. Іранцы рэзка перасталі паліць, прычым кінулі цыгаркі нават тыя, хто не мог пазбавіцца ад шкоднай звычкі на працягу доўгіх гадоў. Нават слугі ў гарэме шаха адмовіліся забіваць трубкі яго жонкам. У выніку шах адмяніў канцэсію, а аятала аператыўна выпусціў новую фетву, што адмяняла папярэднюю.

Вынікі байкотаў таксама часам былі вельмі непрадказальнымі. У 2001 годзе адмова Францыі далучыцца да інтэрвенцыі ў Ірак выклікала ў Штатах байкот прадуктаў з назвай «французскі». Перш за ўсё гэта тычылася кулінарыі. У выніку ўладальнікі рэстаранаў надалі прадуктам новыя патрыятычныя назвы. Так «французская булка» стала называцца «булкай за свабоду». Праўда, гісторыкі адразу ўзгадалі, што падобная сітуацыя мела месца падчас Першай сусветнай. Тады вытворцы квашанай капусты, якая лічылася ежай немцаў, перайменавалі свой прадукт у «капусту свабоды».

Французы ўвогуле шанцуе на байкоты. Якраз цяпер у мусульманскіх краінах пачалася кампанія супраць набыцця тавараў made in France. Адмова ад такіх брэндаў як Cartier, Dior, Chanel, Nina Ricci, цыгарак Gauloises і машын Renault нейкім чынам павінна пакараць адміністрацыю Макрона за намер закрыць мячэці, дзе, на думку паліцыі, гучаць экстрэмісцкія заклікі.

Калі спачатку ўсе кампаніі байкоту, як правіла, былі арганізаваныя грамадствам, то з часам гэтай практыкай зацікавілася і дзяржава. Дастаткова ўзгадаць кампаніі байкоту Алімпійскіх гульняў, або байкот Ізраіля краінамі Лігі арабскіх дзяржаў з мэтай падарваць яго эканамічную і ваенную моц. Кампанія байкоту яўрэйскага бізнесу ў Трэцім Рэйху была наўпрост арганізавана структурамі ўрадавай нацысцкай партыі.

У сучаснай гісторыі мелі месца дзіўныя выпадкі, калі чыноўнікі байкатавалі нават выбары. У 1991 годзе ўлады шасці саюзных рэспублік адмовіліся праводзіць Усесаюзны рэферэндум аб захаванні СССР, што дазволіла з часам — пасля путчу 1991 года, — прасцей атрымаць незалежнасць.

**Адмова ад спажывання нейкага прадукту ўплывае не толькі на пакупніцкую здольнасць, працу або паслугі. Байкот дазваляе мабілізаваць найбольш апалітычныя катэгорыі насельніцтва**

Як бачым, байкот у гісторыі быў дастаткова моцным сродкам для пераменаў. Аднак, магчыма, залаты час байкоту толькі пачынаецца. Дзякуючы сацыяльным сеткам уключэнне ў падобныя кампаніі адбываецца цяпер проста, як ніколі. Пра гэта сведчаць нядаўнія апытанні амерыканскай кампаніі Lending Tree. З тысячы апытаных рэспандэнтаў 38% заявілі, што ў цяперашні час нешта байкатуюць па этычных або палітычных матывах.

Яшчэ больш шакуе свежая статыстыка выдання Refinery29, якое падлічыла, што кожныя пяць секунд у Сеціве нараджаецца новая кампанія байкоту.




## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Першы прэзідэнт Казахстана, які фактычна кіруе дзяржавай, супакоіў казахстанцаў, абвергнуўшы чуткі пра чарговы перанос сталіцы краіны.

Размовы пра тое, што Нур-Султан (былая Астана) вось-вось страціць сталічны статус, з'явіліся на фоне актыўнага павышэння ролі горада Туркестан, які ўвесь час быў райцэнтрам. Пару гадоў таму яго зрабілі абласным цэнтрам замест Чымкента. Пазней былі пабудаваныя велізарная бальніца, стадыён, кангрэс-хол, шыкоўны гатэль, універсітэт... Глабальная рэканструкцыя тлумачыцца афіцыйнымі ідэолагамі тым, што нідзе ў Казахстане няма такой канцэнтрацыі матэрыяльных гістарычных помнікаў. Нарэшце, 1 снежня ў Туркестане пачаў працу найноўшы міжнародны аэрапорт, пабудаваны туркамі і разлічаны на 3 млн пасажыраў у год.

Не дзіўна, што многія ўбачылі ў гэтым прыкметы чарговага пераносу сталіцы. З'явілася нават экзатычная версія, што кіраўнічы клан незадаволены марознай поўначчу, ці Елбасы захацеў, каб яго пахавалі па суседстве з адной з туркестанскіх святынь. Маўляў, так зручней самому ператварыцца ў святога. Аднак у выніку Назарбаеў супакоіў усіх, заявіўшы: падставаў для змены сталіцы няма. Хутчэй за ўсё, развіццё Туркестана стымулюе тое, што паўднёвы рэгіён больш ісламізаваны і патрыярхальны, чым поўнач. Гэта, а таксама беднасць робяць яго плацдармам патэнцыйных канфліктаў, чым і тлумачацца вялікія інвестыцыі дзяржавы ў развіццё мясцовай эканомікі.

### Роберт Хабек



Сустаршыня нямецкай партыі «Зялёныя» разам са сваёй каляжанкай Анналенай Баербок распрацаваў праграму партыі на выбары 2021 года. Яе публікацыя шакавала кансерватыўных немцаў.

Паводле праграмы «зялёных», у Асноўным законе Германіі павінен з'явіцца пункт пра тое, што Германія цяпер — не толькі краіна нямецкага народа, аднак і для імігрантаў. Больш за тое, уладальнікі пасведчання іміграната ў ФРГ, як лічаць «зялёныя», аўтаматычна атрымліваюць правы галасаваць на выбарах.

У прынцыпе, немцы даўно звыкліся, што «зялёныя» прапаноўваюць радыкальныя праекты. Аднак гэты выпадак асобны. Усе прагназуюць, што па выніках наступных выбараў у Бундэстаг менавіта эколагі складуць кампанію хрысціянскім дэмакратам у справе фармавання ўрада. Ці будзе стварэнне такога кабінета адначасова стартам трансфармацыі Германіі ў «грамадства для імігрантаў»? Тым больш, што канцэпт «грамадства для імігрантаў» могуць падтрымаць шматлікія дэпутаты ад эсдэкаў і левых.

Найбольш кансерватыўныя колы, не выключаючы такіх сцэнароў, ужо заклікалі аднапартыйцаў не ісці на кампрамісы з «зялёнымі».

Варта таксама дадаць, што сваю радыкальную праграму ў выпадку прыходу да ўлады эколагі абяцаюць рэалізаваць на працягу двух гадоў.

### Генадзь Зюганаў



Такое ўражанне, што камуністы пад кіраўніцтвам Зюганава вырашылі здабыць дэпутацкую большасць на думскіх выбарах у наступным годзе за кошт барацьбы с дыстанцыйнай формай навучання. Пуцінскія чыноўнікі сапраўды намагаюцца на падставе барацьбы з эпідэміяй перавесці «на дыстанцыёнку» сярэднюю і вышэйшую школу.

Пакуль, праўда, праект праваліўся, аднак кажуць, што дыстанцыйна навучаць у расійскіх школах працягнуць да 2022 года. А некаторыя эксперты называюць тэрмін 10 гадоў. Супраць такіх планаў рашуча выступіла КПРФ. Па ўсіх рэгіёнах прайшлі акцыі зюганаўцаў супраць рэформы. У асноўным дыстанцыйнае навучанне крытыкуюць за шкоду для здароўя дзяцей, якія, маўляў, будуць гадзінамі сядзець ля экранаў камп'ютараў. Натуральна, нагадваюць, што дыстанцыёнка не спрыяе якасці адукацыі. Прыяднаўся да крыжовага паходу і асабіста Дзядзя Гена (мянушка Зюганава), які назваў новую форму навучання «какаінам», які выклікае «лічбавую прыдуркаватасць».

Аналіз кантэнту бацькоўскіх чатаў у Расіі сведчыць пра тое, што перспектыва працягу дыстанцыйнага навучання больш за ўсё хвалюе іх удзельнікаў. А з улікам таго, што пік парламенцкай кампаніі прыйдзецца на жнівень – верасень, КПРФ патэнцыйна можа пашырыць свой электарат за кошт бацькоў і настаўнікаў. Зрэшты, кампанія толькі стартуе, і, магчыма, грамадска-палітычная павестка дня ў Расіі да лета 2021 года яшчэ моцна зменіцца.



Сяргей ШАПРАН

# «На падман вы мяне не штурхняце»

**Заканчэнне. Пачатак у №44–45**

## Прароцтва Брыля

Адным жа з найбольш падрыхтаваных да абмеркавання (разам з гісторыкам Генадзем Кісялёвым і пісьменнікам Алесем Асіпенкам) быў супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Адам Мальдзіс, які казаў, у прыватнасці: «Галоўнае, што інкрымінуецца Караткевічу, гэта тое, што ён, маўляў, напісаў не хроніку народнага жыцця, а хроніку роду князёў Загорскіх. Ці правільна такое сцверджанне? Ці меў аўтар права пісаць хроніку Загорскіх? Мы ж не крытыкуем Льва Мікалаевіча Талстога за тое, што ён пісаў "хроніку" Ростовых і Балконскіх, а не паказваў вайну 1812 года праз успрыняцце тых сялян, якія вынеслі на сваіх плячах усю гэтую вайну. Ніхто не прапанаваў бы ў свой час і не сказаў бы Талстому, каб убраць князя Балконскага, таму што гэта не прадстаўнік працоўнага народа.

Справа ў тым, што з тых жа самых князёў, з шляхты выходзілі тыя людзі, якія ў свой час рухалі прагрэс. Гэта не выкінеш з гісторыі. Рэдактара, мабыць, больш устрайвала б, каб у цэнтры рамана быў не пан Загорскі, а які-небудзь беларускі Пугачоў. Але гэта не адпавядала б гістарычнай праўдзе. Паўстанне 1863 года не было сялянскім паўстаннем. З гэтым усе гісторыкі — і рускія, і польскія — згаджаюцца, а вось беларускія гісторыкі яшчэ не сказалі свайго слова аб паўстанні 1863 года. І ў гэтым адна з прычын таго, чаму з боку некаторых літаратараў гэты раман выклікаў такія адносіны, якія мы маем з боку выдавецтва».

У якасці ж аргументаў на карысць пазіцыі аўтара «Каласоў...» Мальдзіс цытаваў Леніна, запярэчыць чаму ў той час было не недапушчальна, а палітычна рызыкоўна: «Тут дакаралі аўтара, што ён любуецца шляхтай. Але Ленін пісаў, што тады маса шляхты стаяла на чале рэвалюцыйнага руху ў Еўропе. Значыць, Караткевіч любуецца тым, кім трэба было любавацца, бо імена такая шляхта ўзначальвала паўстанне 1863 года». Да таго ж Адам Іосіфавіч прымяніў яшчэ адзін «недазволены» прыём, калі паведаміў, што пра «Каласы...» ужо ведаюць па-за межамі Беларусі, і калі раман не будзе выдадзены, гэта выкліча «толькі задавальненне і радасць з боку нашых ворагаў, якія сказалі б, што, маўляў, бальшавікі вось як душаць усё прагрэсіўнае».

У сваю чаргу іншы блізкі сябар аўтара «Каласоў...» — сталы і аўтарытэтны празаік, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Янка Брыль, які выступаў ужо напрыканцы абмеркавання, казаў пра Караткевіча: «Давайце падумаем аб тым, які пісьменніцкі лёс у гэтага чалавека. Ці многа мы знойдзем людзей, якія будуць пісаць, пісаць, а іх не будуць друкаваць, і ўсё ж такі пасля гэтага чалавек зноў садзіцца і піша. На мой погляд, аб гэтым трэба сказаць і працягнуць руку дапамогі нашаму добраму таварышу, тым больш, што наўрад ці знойдзецца ў нас кім замяніць яго ў такой тэме, у такім жанры».

Увогуле, па вобразным вызначэнні Брыля, слушных аргументаў у абарону Караткевіча было сказана многа, і яны звaліліся на беднага Льва Салаўя нібы капа сена. Але галоўная праблема, на думку Івана Антонавіча, заключалася не ва ўпартай пазіцыі Караткевіча, а ў тым, як «знайсці агульную мову з выдавецтвам», паколькі раман гэты «нам патрэбны, і ён павінен быць выданы». «Не хачу, каб здзейсніліся словы Сашы Адамовіча (ціпун табе на язык!), што не выйдзе раман, як і да гэтага часу не выйшаў, — заключыў Брыль. — Магчыма, трэці том і не выйдзе, але два тамы выйдуць абавязкова, і ў бліжэйшы час — праз год-два». Пры гэтых словах у зале ўзнікла ажыўленне.

## «Прыміце мяне такім, які я ёсць»

Адным з апошніх выступаў аўтар «Каласоў...»: «Вы павінны ведаць адно: твор яшчэ не закончан, — казаў ён. — Я не магу супраць гістарычнай праўды гаварыць, што сялянства было рухаючай сілай паўстання. Пачыналі яго не тыя людзі. Іншая справа, што тое ж самае сялянства пасля зразумела праўдзівасць тых людзей, якія паўсталі за яго, але я не магу сказаць аб гэтым з самага пачатку. Празрэнне гэта – не такая лёгкая рэч, як вы думаеце. Усё было там. За наша празрэнне прыйшлося слязьмі і крывёю заплаціць. А на абман вы мяне не штурхняце. Прыйшла чарга сказаць у нашай літаратуры самую шчырую праўду. Мы людзі, мы грэшным, і абманваем часамі, і робім, што хочаце, але ў адным ёсць наша праўда, і мы павінны быць нязломны, і ніякія меркаванні кан'юктурнага парадку, ніякія меркаванні грашовыя не могуць нас зрушыць. [...]

Дазвольце думаць мне. Я думаў больш, чым два месяцы і больш чым два гады, і я разбіраюся ў гэтым гістарычным перыядзе. Прыміце мяне такім, які я ёсць».

Увогуле, па словах Мальдзіса, Караткевіч застаўся задаволены вынікамі абмеркавання. Між тым гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі прыгадваў: «1967 год. Вясна. Час натужлівага прасоўвання ў друк праз цэнзурныя сіты рамана "Каласы пад сярпом тваім". Вечарам на плошчы Якуба Коласа наша група маладых акадэмічных навукоўцаў сустракае Уладзіміра Караткевіча. Пісьменнік да слёз абураны нядаўнай размовай са сваімі «рэцэнзентамі»: «Чаму яны мяне так душаць? Я мог бы свабодна пісаць па-руску або па-ўкраінску. А я ж стаў беларускім пісьменнікам. Чаму ж у Беларусі так мяне не цэняць?"».

Праблема палягала яшчэ ў тым, што на тых, ад каго й залежаў далейшы лёс рамана — на выдавецкіх работнікаў, — пісьменніцкі сход не зрабіў асаблівага ўражання (стэнаграма абмеркавання была дасланая Захару Матузаву). Мальдзіс прыгадваў:

«На рукапісе "Каласоў..." было пастаўлена столькі пытальнікаў і клічнікаў, панапісана столькі здзеклівых заўваг, што Караткевіч схапіўся за галаву:



Ілюстратарам першага выдання «Каласоў пад сярпом тваім» быў мастак Арлен Кашкурэвіч

— Гары яно ўсё гарам! Не буду я правіць ні слова! Няхай ляжыць да скачэння свету!

Але тут умяшаўся Барадулін:

— Не рабі глупства, Хама [Хама ці Фама — такую жартаўлівую мянушку далі сябры У. Караткевічу. — С. Ш.]. Твой раман патрэбны людзям цяпер! Зрабі выгляд, што сур'ёзна правіш, іначай увогуле выкінуць цябе з плана.

— Не магу, стары, — ледзь не рыдаў Валодзя. — Не магу пагадзіцца з чалавечай дурасцю.

— Дурны і ты, Валодзечка. Не лезь на дыбы з-за дробязей. Папраў нешта другараднае, замяні адзін эпітэт іншым. Так, каб можна было сказаць, што ўлічана працэнтаў семдзесят заўваг. А на істотнае махні ім ручкай: маўляў, тут другараднае глупства, ды і не стану я тут прыхарошваць розных прыгоннікаў... З імі, Хама, трэба ваяваць іх жа зброяй.

— Рука не ўзнімаецца!

— Тады папрасі Адася, — Рыгор кіўнуў у мой бок. — Чалавек тры гады ў рэдакцыі працаваў, розную дыпламатычную праўку рабіў».

Так у маі 1967 года сябры селі разам правіць раман. Скарачалі другарадныя фразы, падкрэсленае рэдактарам слова замянялі другім. Караткевіч спачатку быў змрочны і спрабаваў ваяваць, але потым увайшоў у смак і ахвотна прыдумваў адэкватны ці нават больш трапны, але не такі «лабавы» варыянт.

— Ты глядзі, Адасевіч, — цешыўся ён. — Можа, усё абыдзецца малой крывёю.

А каб у выдавецтве і ў грамадскасці склалася ўражанне, што раман сур'ёзна перарабляецца, Барадулін прапанаваў «падкінуць» адпаведную думку ў друк. Так у ліпені ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» з'явілася вялікае інтэрв'ю Караткевіча пад назвай «Каласы з цаліны», аўтар якога — Адам Мальдзіс — яшчэ ад пачатку зрабіў патрэбны акцэнт: «Рыхтуючы рукапіс да друку ў выдавецтве "Беларусь", аўтар улічыў заўвагі рэдактара, рэцэнзентаў, чытачоў, выкрасліў многія мясціны і дапісаў новыя».

Сам жа Караткевіч гаварыў: «У параўнанні з тым варыянтам, які друкаваўся ў "Полымі", у рукапіс унесены вялікія змены. Прыйшлося пагадзіцца з некаторымі заўвагамі. Вядома, не з усімі. Сёй-той з рэцэнзентаў хацеў, каб у цэнтры рамана аб паўстанні 1863 года я паставіў не князя Алеся Загорскага і яго сяброў, а селяніна накшталт Корчака. Але ж гэта супярэчыла б гістарычнай праўдзе. З новых прац рускіх, беларускіх, літоўскіх і польскіх гісторыкаў — для прыкладу назаву прозвішчы Смірнова, Кісялёва, Кяневіча — бачна, што рухаючай сілай у паўстанні ў Беларусі была якраз шляхта. Не мог я згадзіцца і з тымі заўвагамі, дзе мне прапанавалася "абяліць" некаторых прыгоннікаў накшталт Кроера, зрабіць іх менш жорсткімі».

## Канец рамана

«Каласы...» выйшлі асобным выданнем — у двух тамах і аздобленыя Арленам Кашкурэвічам — ужо на наступны год. Гэткім чынам збыўся прагноз Янкі Брыля, а не Алеся Адамовіча. Праўда, раман з'явіўся зноў у знявечаным выглядзе і друкаваўся-перадрукоўваўся такім амаль паўстагоддзя — толькі ў 2014 годзе быў апублікаваны той варыянт, які, па словах яго каментатара Валянціны Андрэевай, найбольш адпавядае аўтарскай задуме. Зрэшты, першая аўтарская рэдакцыя (яна большая за ўсе ранейшыя кніжныя выданні амаль на палову і прыкладна на пятую частку за той варыянт, што выйшаў у 2014 годзе) і па сённяшні застаецца ненадрукаванай і таму абсалютна невядомай.

Між іншым, пасля выхаду рамана Якаў Герцовіч, пасля крытычнага выступу якога і ўсчалася гэтая двухгадовая антыраманная кампанія, на гэты раз змаўчаў і толькі паскардзіўся на нейкай высокай нарадзе, што з-за яго артыкула працію Караткевіча газета «Звязда» цяпер патрабуе, каб ён падпісваўся не сваім сапраўдным імем, а псеўданімам. На Герцовічаву скаргу Алесь Адамовіч заўважыў: «Гэта робіць гонар "Звяздзе"!».

Зрэшты, эпапея з друкаваннем «Каласоў...» хоць і завяршылася шчасліва, але мела непажаданыя наступствы. Так, паводле задумы Караткевіча, назва «Каласы пад сярпом тваім» павінна была аб'ядноўваць тры кнігі: «Выйсце крыніц», «Брань» (або «Страта») і «Груганнё». Першая кніга была скончана ў 1964 годзе і падчас кніжнага выдання 1968 года была падзелена на дзве: «Выйсце крыніц» і «Сякера пры дрэве». Аднак яшчэ дзве кнігі Караткевіч так і не напісаў. Вядомыя толькі два раздзелы ды аповесць «Зброя», якая стваралася як адзін з раздзелаў рамана, але потым стала яго «адгалінаваннем». Больш чым двухгадовая валтузня з выданнем «Каласоў...», вывеўшы Караткевіча з раўнавагі і выбіўшы з-пад яго ног глебу, у выніку адыграла надзвычай неспрыяльную ролю.

Па сведчанні Мальдзіса, сябры пісьменніка бачылі, што пасля баталій вакол рамана Караткевіч пастыг у дачыненні да «Каласоў...» і балюча рэагаваў на пытанні пра іх. «Чаму? — задаваўся пытаннем Адам Іосіфавіч. — Адбілі ахвоту наскокі вульгарнай крытыкі? Адчуваў, што ў тагачасных умовах цяжка ці нават немагчыма будзе апублікаваць заканчэнне рамана ў такім выглядзе, як диктавала творчае сумленне?» Аналагічнага меркавання прытрымліваўся і найбольш аўтарытэтны біёграф Караткевіча і даследчык яго творчасці Анатоль Верабей: «Думаецца, цяжкасці з выданнем кнігі пэўным чынам паўплывалі на яе завяршэнне, перапынілі, збілі творчы імпэт мастака».

Праўда, была яшчэ адна версія, якую выказваў зноў жа Адам Мальдзіс: чарнавік двух новых кніг (калі ён, вядома, існаваў) мог знікнуць летам 1982 года, калі Караткевіч разам з жонкай адпачываў у Сімферопалі, а па вяртанні даведаўся, што кватэру абрабавалі. Матэрыяльных страт тады набралася на некалькі тысяч, але, па сведчанні Мальдзіса, ягонага сябра бянтэжыла іншае: «Ведалі, што браць, гады! — казаў Караткевіч. — Білі прама пад дых!» І хоць да росшуку падключыліся лепшыя следчыя, аднак нават яны не змаглі нічога зрабіць — казалі, што ў кватэры Караткевіча папрацавалі «класныя спецыялісты». Менавіта тады і мог знікнуць працяг «Каласоў...», выказваў здагадку Адам Іосіфавіч, бо пасля ўжо Караткевіч ніколі не заговорваў пра заканчэнне свайго рамана як пра нешта рэальнае.

Апроч таго, нельга выключаць, што маглі існаваць і іншыя прычыны (прычыны асабістага характару, пра што некалі казаў аўтару гэтых радкоў Іван Антонавіч Брыль), але неабвержным застаецца адно: галоўны твор Уладзіміра Караткевіча так і застаўся незавершаным.

# МАК здолеў: Лукашэнку выкраслілі з міжнароднага алімпійскага руху

Сяргей КАЙКО



**Позна вечарам у панядзелак, амаль апоўначы, Аляксандра Герасіменя выйшла ў інтэрнэт-эфір, каб падзяліцца навіной. Трохразовая алімпійская прызёрка, самая знакамітая плыўчыха сучаснай Беларусі распавяла: «Мы дамагліся аднаўлення правоў спартоўцаў — тых, хто пацярпеў за сваю грамадзянскую пазіцыю, за мірнае выказванне палітычных поглядаў. Цяпер атлеты, выключаныя, звольненыя са зборных, змогуць прыняць удзел у сусветных спаборніцтвах і Алімпіядзе. А чыноўнікі, якія наплявалі на іх правы, панясуць заслужанае пакаранне».**

### Аляксандра і Аляксандр

Выступ Аляксандры адбыўся праз пару гадзін пасля таго, як Байнэт выбухнуў агаломшанымі навінамі са швейцарскай Лазаны. Там у офісе Міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК) прайшло планавае пасяджэнне выканкама, які наклаў беспрэцэдэнтна жорсткія санкцыі на спартыўныя ўлады Беларусі. Ці, лепей сказаць, — на Аляксандра Лукашэнку, які з 1997 года па сумяшчальніцтве кіруе не толькі краінай, але і Нацыянальным алімпійскім камітэтам (НАК).

Не будзем цытаваць працяглы прэс-рэліз, з якім выступіў МАК па выніках пасяджэння выканкама. Транслюем толькі сутнасць — а яна ў тым, што вышэйшае кіраўніцтва беларускага НАК выключана з сусветнага алімпійскага руху. Ці, як любяць казаць на Захадзе, — з алімпійскай сям'і. Часова — але на нявызначаны тэрмін.

Кіраўніцтва — гэта, натуральна, не толькі Лукашэнка, але і яшчэ адзінаццаць чалавек, што складаюць галоўны працоўны орган НАК — выканкам. Яскравых прозвішчаў там хапае, аднак вылучым толькі два: гэта шырока вядомы Віктар Лукашэнка (віцэ-прэзідэнт) — сын свайго бацькі, і сумнавядомы Дзмітрый Баскаў — старшыня Беларускай федэрацыі хакея і чалавек, якога падазраюць у датычнасці да трагічнай смерці Рамана Бандарэнкі. Усе яны больш не змогуць удзельнічаць ані ў якіх мерапрыемствах пад эгідай МАК. Уласна, у Алімпійскіх гульнях — ці не ў першую чаргу.

### Немагчымае магчыма

Прычыны санкцый даўно на слыху, але зараз іх тыражуюць ці не ўсе медыя. Паўторымся і мы: гэта, вядома, рэпрэсіі, абрынутыя на беларускіх спартсменаў пасля выбараў 9 жніўня. Не згодныя з вынікамі электаральнай кампаніі, абураныя серыйным гвалтам у дачыненні да мірных пратэстоўцаў, атлеты падняліся ва ўвесь рост і сказалі ўсё, што думаюць з гэтай нагоды. Яны звярнуліся да сістэмы з гарачым адкрытым лістом, у якім запатрабавалі новых сумленных выбараў і спынення рэпрэсій, і які на гэты момант падпісалі ўжо больш за 1500 прадстаўнікоў спартыўнай галіны.

Сістэма адказала тым, што толькі і ўмее. Ціскам на гэтую стыхійную супольнасць, якая нeяк зашмат пра сябе разумее. Пагрозамі — маўляў, не адклічаш подпіс пад пратэснай прамовай, моцна пашкадуеш. Звальненнямі — маўляў, рабіце высновы, так будзе з кожным. У першую чаргу пацярпелі самыя безабаронныя — члены нацыянальных зборных, што мараць пра ўдзел у Алімпіядзе-2021. Іх гэтай мары вырашылі пазбавіць, выключыўшы са складу каманд. Аднак, у сваю чаргу, нязгодныя спартсмены знайшлі сілы на сустрэчную атаку. Тую самую, якая і прывяла да панядзелкавага вердыкту МАК.

Яны шыкоўна фармалізавалі свой рух. Стварылі адразу дзве структуры — Свабоднае аб'яднанне спартсменаў і Фонд спартыўнай салідарнасці. Сінергія кіруецца ў адзіным напрамку — на падтрымку атлетаў, што пацярпелі ад беларускай вертыкалі праз свае грамадска-палітычныя перакананні. На чале згуртавання паўсталі зорная Аляксандра Герасіменя, дасведчаны чыноўнік (экс-генеральны сакратар НАК) Анатоль Котаў, і малады, адукаваны і порсткі менеджар з гандбольных колаў Аляксандр Апейкін. У мэтах бяспекі яны, зразумела, з'ехалі за мяжу, але іх сукупнага энтузіязму, прыпраўленага дапамогай паплечнікаў, хапіла, каб зрабіць нешта надзвычайнае — нахіліць усю груваcткую канструкцыю беларускага спартыўнага Левіяфана.

Папрацавалі сапраўды добра, разумна і самаадданна. Разумеючы спецыфіку еўрапейскай бюракратыі, бралі не колькасцю, а якасцю. З мноства пацярпелых спартсменаў вылучылі шэсць самых відавочных, узорных прыкладаў — лёгкаатлетаў Андрэя Краўчанку, Вольгу Мазуронак, Святлану Кудзеліч і Дар'ю Барысевіч, а таксама дзюдаістаў Аляксандра Вахавяка і Дзмітрыя Шэршаня. З дапамогай аўтарытэтных нямецкіх юрыстаў падрыхтавалі пакет дакументаў — так, каб камар носа не падтачыў. І адправілі ў МАК, з якім папярэдне наладзілі сувязь і якому яшчэ раней давялі пра сярэднявечныя норавы ў асобна ўзятым цэнтры Еўропы.

### «McDonald's» і франшыза

Каб вы разумелі юрыдычны бок гэтай гісторыі — ён вельмі просты і лёгка тлумачыцца на пальцах. Скажам, Міжнародны алімпійскі камітэт — гэта свайго кшталту галоўны сусветны«McDonald's». Толькі адказвае ён не за фаст-фуд, а за арганізацыю і правядзенне Алімпійскіх гульняў — самых прэстыжных спаборніцтваў на зямлі. Для зручнай працы МАК агарнуў свет павуцінай франшыз — нацыянальных алімпійскіх камітэтаў, якія ёсць у кожнай краіне і якім дэлегаваныя пэўныя паўнамоцтвы. Пры гэтым любы НАК цалкам падпарадкоўваецца МАК, прыкладна як любы касцёл — Ватыкану. Толькі Біблія тут іншая — Алімпійская хартыя. Адмысловы дакумент, усе пункты якога патрэбна няўхільна выконваць, бо інакш вашая франшыза можа перэтварыцца ў саляны слуп.

Беларускі НАК парушыў вельмі важны, базавы пункт. Той самы, што забараняе дыскрымінацыю спартсменаў паводле любога з матываў — палітычнага, рэлігійнага, гендарнага і гэтак далей. Шасцёра згаданых беларусаў пацярпелі менавіта праз гэта — рэакцыя Лазаны не прымусіла сябе чакаць. Як кажуць, бінга.

Лукашэнка, канечне, на такі вырак не разлічваў. Не таму, што трактаваў Алімпійскую хартыю неяк інакш. Не, ён проста ведае, наколькі марудна і нерашуча працуе тая самая еўрапейская бюракратыя — тым больш, на чале яе ў гэты раз быў яго стары знаёмы. Прэзідэнт МАК Бах, таварыш Томас — хоць і немец, але добры чалавек. Амаль сябар, з якім даводзілася неаднаразова стасавацца і пад аб'ектывамі тэлекамер і ў кулуарах. Ён не павінен кінуць у бядзе, дый не гарыць — справу можна пасунуць на які-небудзь месяц-другі наперад, а там неяк само распусціцца.

Аднак не. Стары конь папсаваў баразну, і надзеі аказаліся марнымі. Больш за тое, вечарам у панядзелак Томас Бах асабіста агучыў журналістам вынікі пасяджэння, зрабіўшы адмысловы акцэнт на прозвішчы Лукашэнкі.

Трэба адзначыць, што выключэннем кіраўніцтва НАК справа не абмежавалася. Міжнародныя санкцыі тычацца таксама скарачэння фінансавання па лініі МАК і прыпынення любых перамоваў з Мінскам. З рэмаркай, што Лазана працягне назіраць за сітуацыяй і ў выпадку чаго можа пашырыць санкцыі.

Аднак самае галоўнае ў іншым — у тым, што пацярпелыя спартсмены адноўлены ў сваіх правах на ўдзел у Алімпіядзе. Афіцыйная беларуская прапаганда з усіх сілаў намагалася павярнуць сітуацыю на 180 градусаў — маўляў, з'ехаўшы за мяжу, адшчапенцы-шкоднікі хочуць пазбавіць агулам усіх нашых атлетаў Гульняў у Токіа. Ды толькі не: Герасіменя і Company змагаліся за роўныя правы для ўсіх — і ўпэўнена перамаглі. Цяпер і Краўчанка, і Мазуронак, і іншыя могуць спакойна рыхтавацца да Алімпіяды — разам з камандай ці асобна, гэта ўжо дэталі. І барані Божа якому-небудзь Мінспорта ўторкнуць ім палкі ў колы.

### Гэта толькі пачатак?

У кагосьці, зразумела, узнікне пытанне: а ці такі ўжо балючы для беларускай улады гэты неспадзяваны дэмарш МАК? Падумаеш, нешта там нашчыравалі заходнікі ў спорце — перажывём, гэта ж не эканоміка, не эмбарга і не які-небудзь стратэгічны вотум недаверу, небяспечны мільярднымі стратамі.

Двух меркаванняў быць не можа — гэта вельмі балюча. Бо спорт усе гэтыя гады заставаўся той тэрыторыяй, на якой Лукашэнка пачуваўся, як рыба ў вадзе. Тут ён захоўваў легітымнасць нават у самыя змрочныя часы. Братаўся не толькі з Бахам, але і з былым і цяперашнім кіраўніцтвам міжнароднага футбола — УЕФА ды ФІФА. Ён сябраваў з прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыіі хакея Рэнэ Фазелам, Беларусі давяралі правядзенне буйных турніраў... Усё ішло як па масле, і вось у адзін момант усё ляцідь у прорву. І ўжо нават хакейны чэмпіянат свету-2021 у Мінску, мякка кажучы, пад велізарным пытаннем, бо той жа рэліз МАК сведчыць, што супраць Баскава распачата адмысловае разбіральніцтва.

Так нядоўга і санкцый з боку Еўрасаюза дачакацца — а тыя могуць ударыць ужо пад самы дых.

І што асабліва прыкра, увесь гэты клопат табе прынеслі тыя, каго ты ва ўпор не бачыў і агулам грэбліва называў «збеглымі». На чале з плыўчыхай Аляксандрай Герасіменяй, якая свой панядзелкавы зварот скончыла словамі: «Спартыўныя санкцыі МАК — гэта толькі пачатак».

**Беларускі НАК парушыў вельмі важны, базавы пункт. Той, што забараняе дыскрымінацыю спартсменаў паводле любога з матываў — палітычнага, рэлігійнага, гендарнага. І рэакцыя Лазаны не прымусіла сябе чакаць**



# Падары зняволенаму свята!

**Зусім хутка наступяць Каляды і Новы год — светлыя і радасныя святы, якія мы так любім адзначаць з нашымі блізкімі, у коле сям'і і сяброў. Аднак у нашай краіне за кратамі знаходзіцца шмат людзей, з якіх толькі адных палітычных вязняў ужо больш за 160.**

Беларусы як ніколі раней ад жніўня гэтага года дэманструюць усяму свету, а найперш адно аднаму, незвычайную салідарнасць і ўзаемападтрымку. Мы ведаем, шмат хто з вас, дарагія нашыя чытачы і сябры, піша вязням, дапамагае валанцёрам і робіць шмат карыснага і важнага ў гэты складаны час, але таксама разумеем, што ёсць і стома, і выгаранне, брак часу і сіл.

Але давайце не забывацца, што ўсе гэтыя выпрабаванні зробяць нас яшчэ мацнейшымі, яшчэ бліжэйшымі адно да аднаго. Кампанія «Будзьма беларусамі!» звяртаецца да вас з заклікам: напярэдадні Калядаў і Новага года дашліце віншаванне ці ліст падтрымкі зняволеным. Далучайце да гэтай справы сваіх сваякоў, суседзяў і дзетак, бо нішто так не грэе сэрца, як шчыры дзіцячы малюнак. Гэты просты жэст ад кожнага з нас падтрымае людзей у зняволенні.

«Новы Час» далучаецца да заклiку. І нагадвае, што на дадзены момант больш за 160 чалавек прызнаны палітвязнямі ў Беларусі. Хочацца спадзявацца, што Новы год усе яны сустрэнуць дома, і тады паштоўкі з-за кратаў будуць проста нагадваць ім пра цёмныя часы і святло салідарнай падтрымкі. А пакуль паведамляем, што спіс палітвязняў можна знайсці на сайце spring96.org.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №2062

Падпісана да друку 10.12.2020. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.